Год выданьня 66. № 615, Ліпень - Чэрвень 2015 г.

**Жыве Беларусь!**



# БЕЛАРУС




**BIELARUS/Belarusan newspaper in Free World**
***Published by the Belarusan American Association, Inc.***

*Address:* **166-34 Gothic Drive**
**Jamaica, NY 11432, USA**
*E-mail:* ***bielarus@bazahq.org***

***Шаноўныя чытачы!***

Прапануем вашай увазе чарговы нумар нашай газэты. Зараз час летніх адпачынкаў, і мы вырашылі гэты нумар таксама зрабіць падвойным - аднача за чэрвень-ліпень. Звычайна ў гэтыя месяцы грамадзкае жыцьцё запавольваецца і часам нават зусім заціхае да восені. Але, сёлета так не сталася, падзеі набягалі адна за адной, і мы намагаліся адлюстраваць іх у гэтым выпуску.

Калі ласка, паглядзіце каляндар памятных датаў на жнівень-верасень і вы пабачыце, што і наступныя месяцы будуць таксама не менш адметнымі. Нас чакае сьвяткаваньне Дня аднаўленьня незалежнасьці Беларусі 25 жніўня. Бруклінскі аддзел БАЗА плянуе зрабіць у жніўні прэзентацыю новай кнігі сп. Вітаўта Кіпеля. Таксама варта адзначыць 100-гадовы юбілей вядомага ў беларускім замежжы пісьменьніка Масея Сяднёва, якога ўжо няма з намі, але кніжкі ягоныя застаюцца важкім укладам у беларускую літаратуру.

Нагадаем таксама ньюёрскім беларусам пра тое, што ўжо надыйшла пара распачаць падрыхтоўку да ўдзелу ў Фэстывалі Атлантык Антык напрыканцы верасьня.

Каляндар нагадаў нам асабліва важную дату - 20 верасьня споўніцца 65 гадоў з дня выхаду ў сьвет першага нумара газэты "Беларус". Нас чакае ўжо даволі салідны юбілей. Ці не адзіная сярод беларускага перыядычнага друку ў Амэрыцы і нават ва ўсім замежжы, наша газэта пратрымалася такі доўгі час. Пераадолела ўсе цяжкасьці станаўленьня, разьвіцьця, часам заняпаду, але выжыла і працягвае гуртаваць нашу беларускую грамаду. Таксама спаўняецца 5 гадоў, калі пачаў працаваць склад Рэдакцыі, які цяпер выдае газэту.

Чакаем ад вас, дарагія чытачы, для наступнага юбілейнага выпуску сьвяточных віншаваньняў, успамінаў, пажаданьняў на далейшы шлях, нават крытычных заўвагаў. І, вядома, падарункаў да юбілею ў выглядзе грашовай дапамогі на выданьне газэты, каб не перапыніўся яе шлях у будучыню.

***Рэдакцыя***

# Рада БНР: Умоваў для дэмакратычных выбараў няма

***У сувязі з надыходзячымі прэзыдэнцкімі выбарамі ў Беларусі Рада Беларускай Народнай Рэспублікі прыняла 7 ліпеня 2015 адмысловую заяву, у якой гаворыцца пра сытуацыю ў краіне, якая не спрыяе дэмакратычным выбарам.***


*Старшыня Рады БНР Івонка Сурвіла*

Рада Беларускай Народнай Рэспублікі заяўляе, што ніякія выбары ня могуць лічыцца законнымі і справядлівымі без выкананьня базавых дэмакратычных нормаў, без стварэньня атмасфэры для свабоднага волевыяўленьня і без забесьпячэньня аднолькавых умоваў для правядзеньня перадвыбарчае кампаніі для ўсіх кандыдатаў, у тым ліку прадстаўнікоў апазыцыі.

У заяве Рады БНР канстатуецца, што на дадзены момант у Беларусі адсутнічаюць умовы для правядзеньня свабодных і дэмакратычных выбараў.

Рада БНР адзначае, што ў інфармацыйным полі Беларусі дамінуюць дзяржаўныя СМІ, якія выконваюць прапагандысцкія задачы на карысьць аўтарытарнага рэжыму Аляксандра Лукашэнкі. Незалежныя журналісты, у тым ліку журналісты тэлеканалу «Белсат», Радыё Рацыя, рэгіянальных СМІ, знаходзяцца пад безупынным ціскам з боку ўладаў.

У заяве сьцьвярджаецца, што за кратамі застаюцца некалькі палітычных вязьняў, у тым ліку кандыдат у прэзыдэнты на выбарах 2010 году Мікалай Статкевіч. Працягваецца незаконны ціск з боку ўладаў на актывістаў, палітыкаў, грамадзкія і палітычныя арганізацыі, якія выказваюць крытыку на адрас рэжыму Аляксандра Лукашэнкі.

Рада БНР заклікае ўлады Рэспублікі Беларусь гарантаваць грамадзянам краіны дэмакратычныя правы і свабоды, замацаваныя ў тым ліку ў дзеючым заканадаўстве Рэспублікі Беларусь, стварыць у Беларусі перадумовы для правядзеньня паўнавартасных свабодных і справядлівых выбараў, пасьля чаго правесьці ў адпаведнасьці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусі і міжнароднымі дэмакратычнымі стандартамі перавыбары ва ўсе органы дзяржаўнай і мясцовай улады.

Рада БНР патрабуе неадкладнага вызваленьня і рэабілітацыі ўсіх беларускіх палітычных вязьняў: Мікалая Статкевіча, Юрыя Рубцова, Яўгена Васьковіча, Мікалая Дзядка, Ігара Аліневіча, Арцёма Пракапенкі, а таксама рэабілітацыі ўсіх раней вызваленых палітычных вязьняў.

Рада БНР заклікае міжнародную супольнасьць працягнуць ціск на афіцыйныя ўлады Рэспублікі Беларусь, каб дамагчыся абароны правоў чалавека і рэальных крокаў дзеля дэмакратызацыі палітычнага рэжыму ў Беларусі.

# Да 70-годдзя прыёму Беларусі ў склад заснавальнікаў ААН

**70 гадоў таму, 25 чэрвеня 1945 году, Беларуская ССР была прынятая ў склад дзяржаваў-заснавальнікаў Арганізацыі Аб'яднаных Нацый.**

Юрыдычнай падставаю для гэтага стаў закон, прыняты Вярхоўным Саветам СССР у лютым 1944 году, аб прадстаўленьні саюзным рэспублікам паўнамоцтваў у галіне зьнешніх зносінаў. Савецкія ўлады хацелі тым самым дасягнуць сваёй мэты - уключыць у склад заснавальнікаў ААН усе 15 савецкіх рэспублік, каб мець сваю больш значную прысутнасьць у гэтай новай уплывовай міжнароднай арганізацыі. Аднак, з-за супраціву іншых дзяржаваў удалося дабіцца такога права толькі для Украіны і Беларусі, як рэспублік, што найбольш пацярпелі ад вайны.

У ролі заснавальнікаў ААН выступіла 51 краіна, іх прадстаўнікі ўдзельнічалі ў распрацоўцы Статуту ААН і падпісалі яго ад імя сваіх краінаў 25 чэрвеня 1945 году на устаноўчай канфэрэнцыі ў Сан-Францыска. Сярод іх быў кіраўнік беларускай дэлегацыі, міністр замежных справаў БССР Кузьма Кісялёў.

30 жніўня 1945 году беларускі парлямэнт ратыфікаваў Статут ААН.

Да 1958 году Беларуская ССР была прадстаўлена ў ААН дыпляматычнымі супрацоўнікамі ў складзе Пастаяннага Прадстаўніцтва СССР у ААН.

28 сакавіка 1958 году Савет Міністраў БССР прыняў пастанову аб адкрыцьці Пастаяннага Прадстаўніцтва БССР пры ААН. Гэтая структура стала першай беларускай замежнай дыпляматычнаю ўстановаю.

Пасьля абвяшчэньня дзяржаўнай незалежнасьці суверэнная дзяржава - Рэспубліка Беларусь мае сваё самастойнае Прадстаўніцтва пры ААН у Нью-Ёрку. Аднак, Беларусі пакуль што не ўдалося цалкам пазбавіцца ад расейскіх уплываў на дзейнасьць беларускіх дыпляматаў у структурах ААН.

***Ганна Сурмач***



Юля Андрусышын вядомая сярод беларукай эміграцыі ў Амэрыцы. як актыўная ўдзельніца беларускага грамадзкага жыцьця. Яна належыць да паваеннай хвалі эміграцыі, нарадзілася і дзіцячыя гады правяла ў Менску, 12-гадоваю дзяўчынкаю з сямьёю выехала на Захад улетку 1944 году. Жыла ў лягерах ДП у Нямеччыне, вучылася там ў Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы. Потым разам з роднымі пераехала ў Амэрыку, асталяваліся ў Нью-Ёрку. Усё амэрыканскае жыцьцё сп. Юлі было зьвязана з Мангэттанам і тут яна жыве да сёньняшняга дня ў сваёй кватэры на 6 вуліцы, якую абжывалі разам з мужам-украінцам Паўлом Андрусышыным і двума сынамі Юрчыкам і Данчыкам.




З першага погляду - звычайны эміграцыйны лёс паваенных выгнанцаў з Беларусі. Аднак, лёс сп. Юлі мае сваю непаўторную асаблівасьць. Каранямі свайго паходжаньня сп. Андрусышын зьвязаная з вядомымі ў гісторыі Беларусі родамі. Найперш, пра іх кніга аўтаркі, пра семьі, якія аказаліся зьвязанымі між сабою і далі жыцьцё новым пакаленьням. Менавіта дзякуючы сваім караням сп. Юля сталася адданай, непахіснай патрыёткаю сваёй Бацькаўшчыны і засталася ёю праз цэлае жыцьцё на чужыне.

Па маці Яніне Каханоўскай сп. Юля належыць да роду братоў Івана і Антона Луцкевічаў - пачынальнікаў і актыўных дзеячаў новага беларускага Адраджэньня. Іх родная сястра Эмілія, якая выйшла замуж за прадстаўніка вядомага роду Шабуняў - гэта тая самая баба Міля, пра якую аўтарка так шмат з любоўю згадвае на старонках кнігі.

Другая бабуля - Вольга, нашчадак роду Песьлякаў. Ейны продак Алоіз Песьляк, народжаны ў Трокскім уездзе на Віленшчыне ў сямьі прыналежнай да старадаўняга літоўскага роду, быў сябрам Тамаша Зана і Яна Чачота, пацярпеў ад перасьледу царскіх уладаў у вельмі маладым веку і быў высланы ў кандалах у Сібір. Так і застаўся ў Расеі, але некаторыя ягоныя нашчадкі, у тым ліку і бацька сп. Юлі - Вадзім Каралёў, вярнуліся на Бацькаўшчыну.

Пра розныя адгалінаваньні сваёй радаводнай сп. Юля распавядае з дакладнай падрабязнасьцю, бачна, што руплiва зьбірала зьвесткі пра ўсіх, занатоўвала іх, хаця нікoлі раней не думала, што напіша кнігу. Але, прыйшоў час і разам з ім асэнсаваньне патрэбы занатаваць гэта ў друкавнай кнізе і такім чынам не аддаць забыцьцю ўсё гэта. Як летапісец сваёй сямьі, яна выканала гэтую ролю адказна і сумленна.

Сп. Юля, вядома, распавядае і пра свой уласны лёс, пра тыя дзіцячыя ўражаньні, што засталіся ў памяці пра даваенны Менск, пра ваенныя гады і акупацыю, пра тое, як выглядала вайна вачыма дзіцяці, пра той драматычны падзел, які прынесла вайна ў іхную сямью, што сталася расьцярушанаю па сьвеце.

У кнізе шмат цікавых і каштоўных для гісторыі фотаздымкаў. Пра іх варта сказаць асобна. Здабыла іх сп. Юля не ў нейкіх архіўных установах, а мае ва ўласных сямейных зборах. У тыя драматычныя дні ліпеня 1944 году, калі трэба было сьпешна пакідаць Менск, дарослыя рыхтаваліся ў дарогу, бралі патрэбныя побытавыя рэчы. А 12-гадовая Юля выцягнула з шуфлядаў сямейныя фотаальбомы і выбрала з іх усе фоткі, склала ў сумку і павесіўшы яе праз плячо падалася ў дарогу, захапіла, праўда, яшчэ толькі свайго коціка. Вось такія, на яе думку, самыя дарагія для яе рэчы і найлепшага сябра. Можна толькі зьдзіўляцца глыбіні дзіцячага розуму, які здолеў так асэнсаваць сапраўдныя каштоўнасьці ў такой драматычнай сытуацыі, калі трэба было хутка і назаўсёды пакідаць родны дом. Так з гэтай торбачкаю і прайшла яна праз усе выпрабаваньні, пераезды і пераходы па дарогах вайны і пасьляваеннай разрухі. А потым і прывезла іх за параплавам у Амэрыку, таму і мае цяпер гэты каштоўнейшы сямейны архіў і падзялілася гэтым скарбам з намі - чытачамі кнігі.

Сп. Юля падае нам найлепшы прыклад, як трэба шанаваць гісторыю свайго роду, сваёй сямьі, сваёй краіны ўрэшце.

У сваім уступным слове аўтарка падзялілася разважаньмі пра тое, чаму і для каго напісала сваю кнігу, што яшчэ засталося не дапісане.

Далей прамаўляла сп. Валянціна Трыгубовіч - рэдактар кнігі, якая разам з аўтаркаю шмат працавала над тым, каб кніга была падрыхтаваная як мага больш дасканала і дайшла да друку. Сп. Валянціна высока ацаніла значнасьць выданьня, асабліва ў тым асьпекце, што гэта адна з нямногіх кнігаў успамінаў, напісаных жанчынамі. Жанчыны больш эмацыянальна ўспрымаюць падзеі і апісваюць іх з большай дакладнасьцю, асабліва побытавыя рэчы, што вельмі важна захаваць для гісторыі. У гэтым кантэксце думку падтрымаў і сп. Зянон Пазьняк, які гаварыў пра тое, што вельмі важна дакладна апісваць рэальнае жыцьцё свайго часу, а не толькі выбітныя падзеі і гераічныя вучынкі. Ён таксама зьвярнуў увагу і на яшчэ адну повязь роду сп. Юлі праз Луцкевічаў з пісьменьніцаю Зоськаю Верас (Людвікаю Сівіцкай), на дачцы якой Галіне быў жанаты Лявон Луцкевіч.

Ганна Сурмач выказала сваю асабістую радасьць з таго, што можа сёньня трымаць кнігу у руках, бо ад самага пачатку была прысутная пры яе нараджэньні, ад ідэі напісаньня і да сумеснага з Юляю абмеркаваньня зьместу. Высока ацаніла значнасьць выданьня з пункту гледжаньня гісторыі і выказала падзяку сп. Юлі за гэтую важкую працу. Таксама яна зьвярнула ўвагу прысутных на выставу, якая была падрыхтавана да прэзентацыі, дзе прадстаўлена творчасьць сп. Юлі, як мастачкі -вышывальшчыцы. Шмат гадоў яна займалася мастацкаю вышыўкаю і яе вырабы ёсьць амаль у кожным беларукім доме.

Сяргей Капытка - прадстаўнік новай беларускай эміграцыі ў Амэрыцы нагадаў, што сп. Юля так шмат дапамагала новым эмігрантам на пачатку жыцьця на новым месцы. Яе гасьцінная хата заўсёды была адчыненая для новых людзей. Асабліва падкрэсьліў значнасьць для гуртаваньня новай эміграцыі вандровак ў "Родны кут" - пабудаваны сямьёй Андрусышыных беларускі асяродак у горах, дзе заўсёды было утульна пасядзець ля вогнішча, пагаманіць, пасьпяваць. Мала хто са старэйшай і новай эміграцыі не пабываў у "Родным куце", гэта такая памятная беларуская мясьціна, якую трэба захаваць. Сп. Юля, мала піша пра гэта ў сваёй кнізе, пра гэта павінны пісаць мы самі і дзякавць сп. Юлі за падтрымку і дапамаогу.

Адметнасьцю прэзентацыі і сюрпрызам для ўсіх была прысутнасьць за сталом побач з аўтаркаю і яе гасьцей, што адмыслова прыехалі на сьвята. З Вільні разам з 15-гадовым сынам Янкам прыляцела Алеся Луцкевіч, дачка Юркі Луцкевіча і ўнучка Антона Луцкевіча. Яна таксама ўзяла слова і на мілагучнай беларускай мове выказала свае пачуцьці і падзялілася ўспамінамі пра бацьку. Сястра сп. Юлі па бацьку Вольга Пішкова прыехала з расейскага Іжэўска, дзе цяпер жыве, бо некалі выйшла туды замуж. Яна цяпер займаецца справаю ўшанаваньня памяці Песьлякаў, у Сібіры мясцовыя краязнаўцы знайшлі іх сядзібу і аднаўляюць яе. Абедзьве госьці згадваюцца аўтаркаю ў кнізе і сваёй прысутнасьцю як бы ажывілі яе старонкі.



Сп. Юля ўзяла з сабою на прэзентацыю і дзесятак кніг, якія хутка былі набытыя прысутнымі з аўтографам аўтаркі для кожнага асабіста.

У зале прысутнічала значная колькасьць моладзі, якая з асаблівай цікавасьцю слухала выступы і адкрывала для сябе невядомыя старонкі нацыянальнай гісторыі. Сустрэча аўтаркі з чытачамі адбывалася ў цёплай сяброўскай атмасфэры, яшчэ доўга людзі не разыходзіліся і бавілі час у размовах і ўспамінах. Выказваліся думкі, што патрэбна, каб больш такіх мемуарных кніг пісалася і друкавалася, бо яны даюць найбольш праўдзівую інфармацыю пра мінулае, перадаюць непаўторны дух часу праз усприыняцьце канкрэтных людзей - сучасьнікаў падзеяў.

*Ганна Сурмач*

# Прэзентацыя ў Нью-Ёрку

***12 ліпеня ў Нью-Ёрку, у беларускім цэнтры на Атлантык Авэню 401 адбылася прэзентацыя кнігі сп. Юлі Андрусышын. Кніга выйшла ў сьвет пад назваю "Забыцьцю не адданае" і была надрукаваная ў Беларусі.***



***19 ліпеня папоўніўся лік беларускіх доўгажыхароў у замежжы імём сп. Антона Шукелойца, шырока вядомага ў беларускім замежжы і на Бацькаўшчыне грамадзкага, палітычнага і культурнага дзеяча.***



# 100 гадоў Антону Шукелайцу



Да гэтага часу 100-гадовы жыцьцёвы парог перакрочыў пяць гадоў таму сп. Барыс Кіт. Як жартам зазначыў адзін з тых, хто віншаваў сп. Шукелойца з юбілеем, цяпер яны абодва могуць запачаткаваць адмысловы Клюб і прыцягваць іншых у яго склад. Каму б з нас не хацелася туды трапіць?

Слаўны юбілей сп. Шукелойца ўрачыста адзначаўся беларускай грамадою ў Нью-Ёрку ў гэты ж самы дзень ягоных народзінаў. Летняя сьпёка і жаданьне пабыць бліжэй да вады ці лесу не перавысіла жаданьне пабачыцца з юбілярам ды сьвяткаваць разам з ім і сябрамі. У грамадзкай залі пры Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага на Атлянтык Авэню 401 сабралася багата людзей. Усе чакалі юбіляра і сустрэлі яго апладысмэнтамі.

Урачыстасьць ладзіў Бруклінскі аддзел БАЗА. Напачатку ў залі загучаў гімн "Не пагаснуць зоркі ў небе" у выкананьні хору "Унія". Як вядома, гэты музычны твор стаўся гімнам для беларусаў у Заходняй Беларусі пад час яе знаходжаньня ў складзе Польшчы. Як раз на той час прыйшліся дзяцінства і маладосьць юбіляра, чые карані паходзяць з Ашмяншчыны, тады ж пачаўся і ягоны шлях служэньня беларускай справе.

Першае слова для прывітаньня юбіляра ўзяў сп. Расьціслаў Гарошка - старшыньня Парафіяльнай рады Сабору, у залі якога адбывалася сьвята. Ён нагадаў пра актыўную ролю сп. Шукелойца, якую ён адыграў пры куплі гэтага будынка і таму зараз беларусы маюць сваю залю, дзе можа адбывацца сьвяткаваньне .

Сп. Шукелойц пражыў да юбілею не проста доўгае, але паўнавартаснае, зьмястоўнае, годнае жыцьцё. Заўсёды быў дзейсным, актыўным, здабываў досьвед і выкарыстоўваў напоўніцу свае веды дзеля грамадзкай працы. Далучыўся да беларускага жыцьця ў міжваеннай Вільні, перажыў нямецкую акупацыю ў Менску і здолеў у гэты складаны час знайсьці магчымасьці працаваць на карысьць беларускай справы. Перажыў шмат цяжкіх момантаў у жыцьці і ўрэшце вымушаны быў пакінуць Бацькаўшчыну і стаць выгнанцам на чужыне. І на эміграцыі ён знайшоў сваё месца, каб далей працягваць плённую беларускую дзейнасьць. Браў удзел амаль ва ўсіх накірунках грамадзкай працы сярод беларускай эміграцыі ў Амэрыцы. Цягам 32 гадоў сп. Шукелойц узначальваў Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне, якое аб'ядноўвае беларусаў цэлай Амэрыкі і ёсьць старэйшаю беларускай арганізацыяй у гэтай краіне, заснаванай у 1949 годзе.







Сп. Шукелойц належыць да паваеннай хвалі беларускай эміграцыі ў Амэрыку, якая дзейнічала найбольш плённа і менавіта дзякуючы ёй амэрыканцы сталі ведаць пра Беларусь. Шаноўнымі гасьцямі юбіляра былі ягоныя паплечнікі са старэйшага пакаленьня - знакамітыя беларускія дзеячы Вітаўт Кіпель і Янка Запруднік. Сп. Кіпель узгадаў сваё знаёмства са сп. Шукелойцам пад час вайны і налічыў шэсьць пакаленьняў сям'і Зоры і Вітаўта Кіпеляў, якія зналіся з юбілярам, пачынаючы ад бацькоў і да сёньняшняга маладзейшага пакаленьня Кіпеляў - унукаў сп. Вітаўта, якія, дарэчы, рослыя, як дубы, былі прысутнымі ў залі.

Сп. Запруднік выказаў юбіляру свае філязофскія развагі пра ягонае месца ў амэрыканскім беларускім жыцьці, параўнаў ягоную ролю з роляю гіраскопа - прыбора, які забясьпечвае раўнавагу. Сп. Шукелойц надаваў такую раўнавагу ўсяму грамадзкаму жыцьцю беларускай грамады. Сп. Запруднік таксама адзначыў важную ролю сп. Антона, як этнографа, што вельмі важна для выяўленьня нацыянальнай ідэнтычнасьці. Ён падараваў юбіляру паштоўку, якая была выдадзена па прапанове сп. Шукелойца.

У сваім выступе сп. Зянон Пазьняк выказаў шмат добрых словаў у адрас юбіляра, які даводзіцца яму земляком, яны абодва паходзяць з Ашмяншчыны. Нагадаў пра іх сумесную працу над кнігаю ўспамінаў, якая была выдадзена пад назваю "Гутаркі з Антонам Шукелойцам", выказаў надзею, што ім яшчэ ўдасца запісаць працяг успамінаў.

Сп. Ганна Сурмач прывітала юбіляра ад імя Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня, зьвярнула ўвагу на тое, што з 66 гадоў існаваньня БАЗА сп. Шукелойц кіраваў арганізацыяй 32 гады - амаль палову ўсёй гісторыі дзейнасьці арганізацыі. Яна выказала сп. Шукелойцу самую шчырую падзяку за гэтую ягоную шматгадовую працу.

Сп. Ала Орса Рамана ўзгадала адзін вельмі рашучы паступак сп. Шукелойца, які меў нечаканы вынік. У 60-я гады, калі ў Амэрыку з візытам прыехаў Мікіта Хрушчоў, беларусы вырашылі скарыстаць нагоду, каб выказаць свой пратэст супроць савецкіх уладаў. З плякатамі сталі на Пятай Авэню, дзе праязджаў картэж з савецкім госьцем. Сп. Шукелойц нечакана вырваўся на сярэдзіну вуліцы перад картэжам і выставіў плякат з надпісам "Свабоду Беларусі". Паліцыя арыштавала пратэстоўца. На наступны дзень у газэце Нью-Ёрк Таймс зьявілася фота з гэтым інцыдэнтам, фота мае надпіс "Расеец пратэстуе супроць Хрушчова".



Сп.Юрка Азарка прывітаў юбіляра ад імя Аддзела БАЗА ў Нью Джэрзі і выказаў сп. Антону падзяку за ягоную працу на пасадзе старшыні БАЗА, якая была нялёгкаю і патрабавала шмат высілкаў. Таксама нагадаў, што сп. Шукелойц вельмі дзейсна дапамагаў беларускай моладзі ў Амэрыцы.

Сп. Віталь Зайка прамаўляў ад імя Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня "Пагоня" і выказаў юбіляру самую шчырую павагу.

Сп. Валянціна Якімовіч нагадала пра сваю першую сустрэчу са сп. Шукелойцам ў Кліўляндзе на Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амэрыкі.

Была на сьвяце і госьць з Беларусі - Марыя Флар'яновіч з дачкою Ганнаю Галеба, якая жыве у Бостане. Яны выступілі з прывітаньнем і перадалі па мастацку аформленае віншаваньне ад вядомага мастака Міколы Купавы.

З Беларусі пісьмова віншавалі сп. Шукелойца ад імя Згуртаваньня беларусаў сьвету "Бацькаўшчына".

Было зачытана цёплае, зьмястоўнае прывітаньне ад беларусаў Канады, якое даслалі старшыня Галоўнай управы Згуртаваньня беларусаў Канады Зьміцер Эльяшэвіч і старшыня Парафіяльнай рады Царквы сьв. Кірылы Тураўскага ў Таронта Надзеі Дробінай.

Паштовае віншаваньне даслала старшыня Гуртка БАЗА у Вашынгтоне Алеся Кіпель. На сьвяце згадвалася пра тое, што структура БАЗА ў Вашынгтоне была створаная менавіта па прапанове сп. Шукелойца.

З Каліфорніі даслалі прывітаньне з грашовым чэкам старэйшыя сябры БАЗА, якія належаць да хвалі паваеннай эміграцыі - Кацярына і Яраслаў Вініцкія.

З Нью Джэрзі юбіляра пісьмова прывіталі ад сям'і Стагановічаў, таксама ад Лёлі Касоўскай.

Прыемным завяршэньнем сьвята стаўся выступ Сяржука Сокалава-Воюша. Ён цёпла прывітаў сп. Шукелойца і выканаў некалькі песьняў, якія прыйшліся да спадобы не толькі юбіляру, але і цэлай залі, шмат хто з прысутных нават падпяваў барду , калі ён выконваў знакаміты "Аксамітны летні вечар...". Сяржук прысьвяціў сп. Антону свой новы верш пад выразнай назвай "Сто".



Не абышлося, вядома, і без сьвяточнага торту, які выпякла маладая сяброўка БАЗА Жанна Карнілава і падаравала юбіляру, каб частаваў гасьцей. Было шмат кветак і традыцыйнае пажаданьне: "Шмат год, шмат год, шмат гадоў!"

***Ганна Сурмач***



# Беларускае Купальле ў канадыйскім «Слуцку»



4 ліпеня у адпачынкавым цэнтры "Слуцак" канадыйскія беларусы адзначалі традыцыйнае Купальле. На сьвята сабралася каля 140 чалавек. Многія прыехалі ў беларускіх вышыванках і выцімайках.

Падчас сьвяткаваньня акрамя купальскай дзеі адбываліся сьвяточны кірмаш, парад строяў, гульні для дзяцей і дарослых, беларускія сьпевы і танцы. Дзякуючы таму, што беларуская грамада ў Канадзе некалі здолела сабраць сродкі і набыць адпаведнае месца для летніх адпачынкаў, а таксам ўтрымала яго да сёньняшняга дня, беларусы не маюць клопатаў з пошукам месца для купальскіх гульняў.

«Слуцак» — так называецца беларуская база адпачынку недалёка ад Таронта ў Канадзе. У 1966 г. Згуртаваньне беларусаў Канады набыло фэрму, неўзабаве быў створаны дом адпачынку. Цяпер там рэгулярна зьбіраюцца беларусы Канады.





# Купальле ў Чыкага

У апошнія гады выглядае, што чыкагскія беларусы ўсё больш актыўна перабіраюць ініцыятыву ў сьвяткаваньні Купальля сярод беларусаў Амэрыкі. Раней цудоўнымі Купальскімі сьвятамі больш вызначаўся Нью-Ёрк. Не толькі з самога гораду, але і з ваколіцаў і са штату Нью Джэрзі зьбіралася беларуская грамада, каб паскакаць праз купальскае вогнішча ды пашукаць чароўную Папараць-Кветку.

Старшыня Гуртка БАЗА ў Чыкага сп. Жанна Чарняўская кожны год хвалюецца, а ці ўдасца гэтым разам сабраць людзей ды падрыхтаваць усё належным чынам. Падрыхтоўка ідзе загадзя, і ўсё ўдаецца найлепшым чынам.



Вось што напісала сп. Жанна ўжо пасьля сьвята на старонцы суполкі ў інтэрнэце ўсім удзельнікам Купальля. З ліста відаць, як шмат людзей працавала, і што было зроблена:

"Вось мы і адгулялі Купалле! Надвор'е было цудоўнае, народу багата! Дзякую ўсім, хто рыхтаваў свята! Машы Сухоцкай, Жане Чарняўскай, Тане Зіміной, Сашу Бондару, Марыне Мікульскай, Вале Вішнеўскай, Chad Масе, Гену Каракіну, Сашы Струновай, Косцю Осіпаву, Юле Тучкоўскай, Насце Моталавай, Наталле Чухно, Сашу Полазаву (асаблівы дзякуй за вяікае цярпенне), Лене Афанасьевай, Дзіме Чарнашэю, Зіне Колас і Раману Чарапаху, Ірыне Шакун і Сяргею Мікулічу! Асаблівая ўдзячнасць нашым шчырым гаспадарам і гаспадыням, якія рупліва гатавалі Купальскія стравы: Лене Афанасьевай, Жане Чарняўскай, Наталлі Чэрнік, Інне Астроўскай, Марыне Казак, Іры Лакціонавай і Дзіме Чарнашэю, Любе і Сяргею Сцененковым, Наталлі Чухно, Тане Смальцар! Дзякуем усім, хто прыйшоў на свята і падзяліўся са ўсімі сваім добрым настроем! Таксама дзякуем за грашовыя ахвяраванні! Сабраныя сродкі будуць скарыстаныя на падтрымку Беларускай Школы ў Чыкага "Чароўная Стужка" і на другія праэкты!"

Да гэтага тэксту падаем фотаздымкі, якія найбольш яскрава сьведчаць пра шматлюднасьць і атмасфэру сьвята. Такі посьпех, безумоўна, не застанецца без добрых вынікаў і пакліча людзей прыйсьці на Купальле ў наступным годзе.

***Ганна Сурмач***





# УЗНАГАРОДА ДР. ЮРКУ КІПЕЛЮ

На адрас “Беларуса” прыйшла не штодзённая публікацыя: англамоўная кніга-праграма ўрачыстасьці 3-га ліпеня сёлета пад заг. “Клопат аб здароўі” з паведамленьнем аб уручэньні граматаў і мэдалёў заслужаным асобам ад імя скаўцкае арганізацыі паўночных акругаў штату Нью Джэрзі. Сярод ушаноўваных – доктар беларускага паходжаньня Юрка Кіпель. Але для яснасьці – кароткае тлумачэньне.

Паўночныя акругі штату – Пасэйк, Эсэкс, Гудзон, Бэрген -- самыя густанаселеныя ў краіне, вельмі індустрыяльныя з высокаразьвітай транспартнай сыстэмай. У гэтых акругах жыве больш за сто нацыянальнасьцяў, тут сотні этнічных арганізацыяў, мноства цэркваў, касьцёлаў, мячэцяў, сынагогаў, будыскіх храмаў і розных малітоўных дамоў. Школьніцтва ў гэтых акругах адно зь лепшых у цэлай Амэрыцы, а ў моўных рээстрах зазначаецца й беларуская мова.

У традыцыю гэтых шматэтнічных акругаў увайшло ўзнагароджваць штогоду лепшых настаўнікаў, адміністратараў, лекараў, грамадзкіх дзеячоў адпаведнымі граматамі. Падзея апісаная ў атрыманай пубікацыі – гэта 23-е ўжо ўшанаваньне асобы, якая працуе і прапагандуе праграму “Клопат аб здароўі праз скаўцкі рух”. У акрузе Бэрген з жыхарствам больш за мільён такой асобай стаўся др. Юрка Кіпель, дзіцячы кардыёляг прафэсійна спалучаны з унірэрсытэцкім шпіталём ў гор. Гакэнсак. У часе прээзэнтацыі былі адзначаны заслугі Юркі Кіпеля як мэдыка, як скаўцкага лідэра й грамадзкага дзеяча ды таксама сказана, што др. Кіпель доўгагадовы актыўны сябра Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня (БАЗА), а гэта для нас, беларусаў, вельмі важна. Прымаючы ўзнагароду, трохмоўны др. Юрка Кіпель (выдатна валодае гішпанскай) падкрэсьліў ягоную сувязь зь беларускасьцю ды таксама зазначыў, што любоў да скаўтынгу й вялікае значэньне гэтай арганізацыі для моладзі ён пераняў ад бацькі - сп. Вітаўта Кіпеля, які змоладу быў актывістам, а пасьля лідэрам у беларускім і амэрыканскім скаўтынгу.

Дадамо таксама рэдакцыйна: адзнакі спраўнасьці ў скаўтынгу Юрка Кіпель пачаў здабываць яшчэ калі быў вучням беларускай нядзельнай школкі пры саборы БАПЦ на 401 Атлантык Авэню ў Брукліне пад кіраўніцтвам а. Карпа Стара.

Шчыра вітаем др. Юрку Кіпеля з узнагародай.

***Янка Запруднік***

**DISTINGUISHED HEALTH CARE SERVICE AWARD**



**GEORGE KIPEL, MD**

George Kipel, MD grew up in Rutherford, NJ and was a member of Cub Scout Pack and Troop 161. He became an Eagle Scout in 1973. He was a member of the Rutherford First Aid Squad for 7 years. He attended Rutgers University in New Brunswick, NJ graduating in 1980. He taught earth science at Pope Pius X High School in Piscataway, NJ and Maxson Middle School in Plainfield, NJ for 2 years. He completed medical school at Universidad del Noreste in Tampico, Mexico and a Fifth Pathway program at Downstate Medical School in Brooklyn, NY. He completed his Pediatric residency at University of Medicine and Dentistry NJ Medical School and Children's Hospital of NJ in Newark, New Jersey. He then completed a Pediatric Cardiology fellowship at Mt Sinai Medical School in New York City.

Dr. Kipel has been an attending physician in pediatric cardiology at Hackensack University Medical Center for the past 20 years. He is currently assistant director of pediatric cardiology there. He specializes in non-invasive clinical pediatric cardiology with particular interests in sports and genetic cardiology. He has been an author of numerous papers and invited speaker at multiple conferences. He is an Assistant Professor of Pediatrics at Rutgers-NJ Medical School and a visiting professor at Mt. Sinai Medical Center in New York.

Apart from his professional duties, he is an elected trustee of the Northern Valley Regional School District Board of Education. Prior to this, he served as an elected trustee of the Haworth, NJ Board of Education. He is the medical director of Hope with Heart Camp (a sleep away camp for children with moderate to severe heart disease). He has been an Assistant Scoutmaster of Troop 73 in Haworth, NJ for 8 years. Prior to this, he was the Troop's Scoutmaster for 3 years and Troop Committee Chairman for 2 years. He was an Assistant Cub master of Pack 373 for 5 years. He has been a leader of the Sacred Heart Catholic Church Youth Group in Haworth for 6 years. He has served on the Haworth Board of Health for 6 years. He has been an active member and officer of the NJ Belarusian-American Association for 30 years.

Dr. Kipel has been blessed in marriage to his wife Lorraine for over 25 years. They have 3 sons who are Eagle scouts. Due in a large part to his scouting experience and strict upbringing, he strongly believes in the value of education, yeoman work ethic, putting others ahead of self, being grateful, and living each day by the 12 points of the Scout Law.

***У 2010 годзе ў Польшчы выйшла кніга пад назваю "Polesie", Antoni Ferdynard Ossendowski, Poznan. У кнізе ёсьць многа цікавых гістарычных фотаздымкаў, зьнятых пераважна нашым земляком Янам Булгакам. У кнізе не пазначана, ці ёсьць яна перадрукам міжваеннага выданьня ці друкуецца першы раз. Але, з тэксту выглядае, што напісана яна ў міжваенны час.***

# Кніга пра Палесьсе

Кніга складаецца з 11 раздзелаў, дзе апісваюцца розныя асьпекты жыцьця Палесься. На ўнутраных старанах акладак зьмешчана старадаўняя польская мапа Палесься. Шкада, што выдаўцы не падалі, з якога году яна паходзіць. На мапе няма абазначэньня Агінскага канала і Днепра-Бугскага таксама. Дык можна меркаваць. што гэтая мапа была складзена перад 1768 годам.

У кнізе згадваецца, што Герадот даў вестку аб палескім моры, якое прыняло назоў "Герадотава мора". А праз 300 гадоў пазьней вялікі Пталамей накрэсьліў мапу Палесься з ягонай сталіцаю Леніюм (Lenium), якая атаясамліваецца з цяперашнім Пінскам.

Аўтар шмат піша пра палешукоў, пра іх цяжкае жыцьцё, пра характары людзей, пра рэлігіі і забабоны. Апісваецца дакладна і з учуцьцём флора і фаўна Палесься.

Будучы польскім патрыётам, аўтар апісвае Палесьсе і палешукоў з чыста польскага пункту гледжаньня, таму з некаторымі ягонымі выказваньнямі і апініямі можна спрачацца. Напрыклад, ён піша пра польскія школы на Палесьсі: "Наша школа вучыць маладых палешукоў гаварыць, чытаць і пісаць па-польску". Адкрыцьцё школаў ёсьць добраю справаю. Аднак, беларусы-палешукі і іхныя дзеці не былі палякамі, дык чаму гэтыя школы не былі беларускія, чаму там не вывучалася беларуская мова ў гэтых польскіх школах? Ці можна сказаць што гэта было справядліва ў адносінах для беларусаў?

Зноў у адным месцы аўтар піша, што "... Кіеўская Русь, а потым Маскоўская ўважалі Палесьсе як чужы ім край..." А вот жа Польшча была іншая і "... і пад сваю добрую, апякунскую руку прыняла (палешукоў - М.Ш.) ..."

Ёсьць вельмі дзіўныя і некаторыя выказваньні аўтара аб праваслаўнай рэлігійнасьці беларусаў-палешукоў. Напрыклад, на бачыне 184 пішацца, што "... насельніцтва ходзіць да царквы пад прымусам папоў альбо дзеля разьвесяленьня ў сьвяточныя дні, вельмі ашчадна кладучы дабраахвотныя ахвяры".

Сам я, хто піша гэтую інфармацыю, родам з Палесься, з Пiншчыны, ніколі не бачыў і не чуў такое, як піша пра нашу рэлігійнасьць аўтар кнігі. Ніякія сьвятары не прымушалі нас хадзіць да царквы і ахвяры клалі, хто колькі мог.

Палякі, паводле аўтара, замест эміграваньня за мяжу, павінны асяляцца ... на Палесьсі. Так, на Палесьсі была зямля для палякаў-асаднікаў, былых жаўнераў-легіяністаў. А карэнныя беларусы на Палесьсі часта былі беззямельнымі і эміґравалі за акіян, каб шукаць лепшай долі. Ці ж такую палітыку можна назваць сацыяльна справядлівай?

У адным месцы аўтар піша, што "найвялікшай задачай (для палякаў - М.Ш.) было ўсьведамляць і пераконваць палешукоў, што край, заселены імі, належыць выключна і беспаваротна да Польшчы, якая не мае намеру зракацца сваіх сувэрэнных праваў да гэтай часткі сваёй дзяржавы..." Дзіўна чытаць гэтыя выказы і думкі цяпер.

Аўтар успамінае ўраджэнца Палесься Тадэвуша Касьцюшку, што ён быў вялікім польскім патрыётам, але не згадвае пра ягоныя беларускія карані. Таксама падае прозьвішчы многіх вядомых палякаў, якія мелі нешта супольнага з Палесьсем.

Розныя думкі і пачуцьці прыходзяць пад час чытаньня кнігі. Ёсьць у ёй шмат цікавых і карысных зьвестак, старыя фотаздымкі дадаюць ёй вялікую вартасьць. Але, ёсьць выказваньні і выразы, якія маюць аднабаковы характар і не заўсёды вызначаюцца прыхільнасьцю да мясцовага насельніцтва і ягоных інтарэсаў.

Аўтар кнігі, паляк , уважаў Палесьсе за неад'емную частку Польшчы. Ён не прадбачыў, што ў верасні 1939 году Заходняя Беларусь будзе далучаная да БССР . Так скончылася восемнаццацігадовае панаваньне Польшчы над Заходняй Беларусьсю і над Палесьсем.

***Міхась Шведзюк***
*Англія*

***У Беларусі ў выдавецтве "Кнігазбор" пабачыла сьвет новая кніга з успамінамі беларускага эмігранта са Злучаных Штатаў Сьвятаслава Шабовіча пад назваю "З фальварка Марцінова да Фармінгтонскіх узгоркаў. Гісторыя аднаго падарожжа". Гэта 24-я кніга з сэрыі "Бібліятэка "Бацькаўшчыны". Кніга была напісаная па-англельску, а пераклад на беларускую мову зрабіла Віялета Кавалёва.***

прадстаўнікі пакінулі не так шмат успамінаў. Апошнімі часамі пакрысе пачалі з’яўляцца мемуарныя тэксты.

Штуршок напісаньню ўспамінаў дало падарожжа Сьвятаслава Шабовіча па Еўропе, якое ён здзейсьніў у пачатку бягучага стагоддзя. Тады ж ён наведаў і Беларусь, мясьціны свайго дзяцінства. Аўтар кнігі вельмі шчыра расказвае пра асабістыя перажываньні і назіраньні. Згадкі мінулага нярэдка перагукаюцца з сучаснымі ўражаньнямі. Ёсьць у кнізе і фота розных часоў.

# “З фальварка Марцінова да Фармінгтонскіх узгоркаў”

Падчас Другой сусьветнай вайны Сьвятаслаў Шабовіч страціў бацькоў, у дванаццаць гадоў пакінуў Беларусь, нейкі час жыў у лягерах для перамешча- ных асобаў у Нямеччыне, потым выехаў у ЗША, дзе і асталяваўся назаўсёды.

У прадмове да кнігі дасьледчыца эміграцыі Натальля Гардзіенка піша, што да XX ст. у беларускім эміграцыязнаўстве пакаленьне народжаных у 1930-я гады заставалася незаўважаным, таму што яго

У сваім аповедзе Сьвятаслаў Шабовіч згадвае сваё маленства, сям'ю, апісвае малую радзіму і ваенныя падзеі, што пакінулі яго і трох ягоных сясьцёр сіротамі. Аўтар дзеліцца ўспамінамі пра ўцёкі на Захад разам з дзядзькавай сям'ёй, тулянне ў паваеннай Эўропе і пераезд у Амерыку. Амерыканскую частку свайго жыцьця аўтар апісвае значна менш.

# Ураджэнец Беларусі ўдзельнічаў у стварэньні атамнай бомбы

6-га жніўня споўнілася 70 гадоў з дня амэрыканскага атамнага бамбаваньня японскага гораду Хірасіма. Удар быў нанесены на апошнім этапе Другой сусьветнай вайны, з мэтай паскорыць капітуляцыю Японіі. Ахвярамі выбуху сталі каля 140 тысяч чалавек. Гэта быў першы ў гісторыі чалавецтва прыклад баявога ўжываньня ядзернай зброі. Мяркуецца, што ў стварэньні першых атамных бомбаў удзельнічаў беларус Пол Калаўскі.

З някралёгу, зьмешчанага ў газэце Baltimore Sun, можна даведацца, што Пол Калаўскі (Paul Z. Kalavski) нарадзіўся ў Пружанах і пераехаў у Амэрыку, калі быў дзіцём.

У ЗША ён працаваў аналітыкам-дасьледнікам у Лябараторыі па ўзбраеньні ваенна-марскога флёту (Naval Ordnance Laboratory) у мясцовасьці Уайт Оўк (White Oak), штат Мэрылэнд, дзе ўдзельнічаў у «раньнім тэставаньні атамнай бомбы».

Пол Калаўскі памёр у 1994 годзе ў ЗША, у штаце Мэрылэнд.

Акрамя гэтага, асоба па прозьвішчы Paul Z. Kalavski значыцца як аўтар кнігі з 1952 году пад назвай «A High Speed Recording System Using the Velocity Method to Determine the Peak Pressure Produced in Air by Explosives and Appendix». Выглядае на тое, што ўраджэнец Беларусі Пол Калаўскі стаў у ЗША спэцыялістам у галіне вайсковай аэрадынамікі.

Пра Пола Калаўскага паведаміў чытач Радыё Свабода.

***Паводле Радыё Свабода***

# ПРАТЭСТ

**супраць забароны ўезду на Беларусь кіраўніку Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы 31 ліпеня 2015 году.**

Парафіяльная Рада Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ў Нью Ёрку Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы (БАПЦ) выказвае пратэст супроць дзеяньняў беларускіх уладаў, па волі якіх не быў дапушчаны наведаць Беларусь па духоўных справах Яго Міласьць Найпачасьнейшы Сьвятаслаў, Архіяпіскап Беларускае АўтакефальнаеПраваслаўнае Царквы (Вячаслаў Логін).

Архіяпіскап Сьвятаслаў, як Першы Ярарх, кіруе Беларускаю Аўтакефальнаю Праваслаўнаю Царквою й апякуецца беларускімі праваслаўнымі вернікамі ва ўсім беларускім замежжы і таксама прыходамі БАПЦ у Беларусі. Ягоныя візыты на Бацькаўшчыну заўсёды чакаюцца вернікамі і даюць неабходную ў наш цяжкі час духоўную падтрымку тым, хто хоча быць пад апекаю менавіта беларускай царквы, а не царкоўных структураў, падпарадкаваных Маскоўскаму патрыярхату. І гэта ёсьць законнае права кожнага грамадзяніна Беларусі належаць да той царквы, куды ён хоча і дзе адчувае сябе больш свабодна.

У Беларусі царква аддзелена ад дзяржавы. На якой падставе тады чыняцца перашкоды з боку дзяржавы, каб вернікі БАПЦ не мелі магчымасьці сустракацца са сваім Ярархам.

***Расьціслаў Гарошка***

*Старшыня Парафіяльнае Рады*

*Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага БАПЦ ў Нью Ёрку*

# Навіны з Вашынгтону

12 чэрвеня сябры Вашынгтонскага гуртка БАЗА ўсклалі бел-чырвона-белыя кветкі да Мемарыялу ахвярам камунізму.



*Вашынгтонскія беларусы Вячаслаў Бортнік і Яўгенія Курбат з ляўрэатам Медалю Свабоды Трумана-Рэйгана Аляксандрам Падрабінэкам*

# Тактычная група «Беларусь»

## аб'яднае беларускіх дабраахвотнікаў ва Украіне

«Пасля правядзення шэрагу перамоваў кіраўніцтвам Добраахвотніцкага Украінскага Корпуса прынята рашэньне аб стварэньні тактычнай групы «Беларусь»», — гаворыцца ў паведамленьні суполкі "Згуртаваньне Патрыётаў", якая публікуе навіны з жыцьця беларускіх байцоў-добраахвотнікаў.

Фарміраванне ТГ «Беларусь» будзе праходзіць у прыфрантавой зоне, першая група байцоў ужо на пазіцыях, паведамляе суполка.

Аснову ТГ складаюць беларускія хлопцы з вопытам баявых дзеянняў, па меры вырашэння праблем з матэрыяльна-тэхнічным забеспячэннем будзе праходзіць далучэнне беларусаў з іншых батальёнаў, піша аўтар.



«Наша мэта — стварэнне нацыянальнага беларускага аддзела, які зробіць свой унёсак у змаганне супраць агульнага ворага. Разам да перамогі. Жыве Беларусь! Слава Украіне!» — гаворыцца на заключэнне.

Беларускія добраахвотнікі ўдзельнічаюць на украінскім баку ў змаганні супраць расійскай агрэсіі з пачатку баявых дзеянняў вясной 2014 года. Звычайна яны служаць у розных добраахвотніцкіх украінскіх аддзелах.

Найбольш вядомая група беларускіх нацыяналістаў удзельнічала ў складзе Добраахвотніцкага Украінскага Корпуса «Правага сектару» ў абароне важнай пазіцыі — вёскі Пяскі — каля Данецкага аэрапорта.

***Аляксандр Гелагаеў***

*Паводле газэты "Наша Ніва"*

# ПАД ПРАЖСКАЙ ЗАРЫЦАЙ

*Раскрыляцца песні,*
*каб нацыю несці*
*туды, дзе свабода –*
*пад ясну зарыцу.*
*...Спаўна ганарыцца*
*такому народу:*
*мы гучныя – зроду!*

***(З верша С. Панізьніка, прысвечанага С. Доўгушаву)***

Сёлетняй вясной на сайце Грамадскага аб"яднання "Пагоня" пазначалася, што выйшаў дыск "Пад ясну зарыцу" (Песенна-абрадавая традыцыя Міёршчыны па матэрыялах аўдыёкалекцыі С. Панізьніка. Запіс 1968-69 гадоў). Удакладнялася, што дыск, выдадзены пры фінансавай падтрымцы суполкі "Пагоня", вельмі прыгожа распрацаваны: на яго старонках змешчаны 11 фотаздымкаў з вершамі, а на вокладцы – той самы бабышаўскі дом, які калісьці быў напоўнены каранёвым меласам –каляндарнымі, вясельнымі, хрэсбіннымі і іншымі песнямі. Выхад дыска аўтэнтычнага фальклору здзейснены дзякуючы падтрымцы Андрэя Гайко, Віталя Цімошчанкі, суполкі "Пагоня" (Прага). А падрыхтоўкай яго займаліся спявак, музыка, фалькларыст Сяржук Доўгушаў і дацэнт Таццяна Бяркові ч – загадчыца кабінета традыцыйных музычных культур Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, дзе і захоўваюцца фальклорныя запісы С. Панізьніка.

У канцы кастрычніка сайт паведамляў, што ў сп. Панізьніка знайшлася магчымасць завітаць у Прагу і прэзентаваць свой дыск у Беларускай клюбоўні на вуліцы 5 кветня. Ён распавёў пра ідэю і гісторыю запісу песень з Бабышак, Даўгінава, Лявонпаля – ад Адэлі й Альжбеты Панізьнікаў, Гені Адамовіч, Зіны Кліманскай, Ліды Шук, Маруты Пальчэх, Ядзвінні і Андрыяна Кісялкоў, Вольгі Грэцкай, Марылі Кезік, а таксама ад мамы Ганны Панізьнік.

Сп. Сяргей зачытаў шмат сваіх вершаў, напісаных пад уздзеяннем песень землякоў. Госці той сустрэчы пачулі ўсплескі народнай мудрасці – прымаўкі, павучанні, прыбабункі, пацешкі, пачутыя ім пры запісах аўтэнтыкі.



*Сябры суполкі "Пагоня" у Празе*

У гонар прэзентацыі Сяржук Доўгушаў выканаў песню з дыска "Хадзіў Раёк...", запісаную 45 гадоў таму ад Маруты Пальчэх з Даўгінава. Да яго далучыўся баяніст і кампазітар Алесь Ясінскі: з Сержуком яны прадставілі цікавую музычную праграму. А набытыя дыскі чакалі аўтографа госця.

Сп. Сяргей і раней бываў ў Празе, але даўнавата. Таму новыя сябры наведалі разам з ім дом сп. Юркі Станкевіча – самага старэйшага пражака, пабылі ля помніка Ф. Скарыну, пакланіліся на Альшанскіх могілках помнікам М. Забэйду-Суміцкаму, В. Захарку, П. Крэчэўскаму... Былі і ў царкве сьвятых Кузьмы і Дзям'яна, дзе малебны вядуцца на нашай роднай мове.

Шэсць стагоддзяў налічвае беларуска-чэшскае гістарычнае і культурнае сужыццё. Нашы суайчыннікі-сучаснікі ганарацца, што існуе афіцыйнае прызнанне беларусаў у якасці нацыянальнай меншасці ў Чэшскай Рэспубліцы, што, акрамя суполкі, дзеіць Беларуская нядзельная школа ў Празе, выдаецца культурна-асветніцкі часопіс "Крывія"... Таму і надалей будзе прымаць гасцей Беларуская клюбоўня на вуліцы 5 кветня ў Празе. Бо, як згадваў сп. Сяргей Панізьнік словы сваё маці, – "Жыць з людзьмі трэба так, каб слова на дабрыдзень пакідаць", гэта значыць – для новых вітальных сустрэч.

***Сяржук Доўгушаў***

У Вашынгтоне ўсталявалі помнік мільёнам ахвяраў масавага голаду ва Украіне ў 1932-33 гадах 20-га стагодзьдзя, які быў вынікам мэтанакіраванай палітыкі бальшавіцкай улады.

Помнік зьявіўся пасьля многіх гадоў падрыхтоўкі. Вярхоўная рада Украіны яшчэ ў 2006 годзе прызнала Галадамор актам генацыду ўкраінскага народу. Аднак пазьней, падчас кіраваньня зрынутага прэзыдэнта Віктара Януковіча, ягоная адміністрацыя выступала супраць ушанаваньня памяці памерлых. Спатрэбілася каля 20 гадоў, каб ад моманту задумы праект быў увасоблены ў жыцьцё. Афіцыйнае адкрыцьцё манумэнту прызначана на 7 лістапада — напярэдадні штогадовых памінальных імпрэзаў, падчас якіх украінцы ўсяго




# У Вашынгтоне паставілі помнік ахвярам украінскага Галадамору

сьвету ўшаноўваюць памяць сайчыньнікаў, загiблых ад рук сталінскага рэжыму, распавяла ў інтэрвію Радыё Свабода прэзыдэнт Камітэту Кангрэсу ўкраінцаў Амэрыкі Тамара Алекса:"Гэта вельмі важны момант у жыцьці нашай украінскай супольнасьці ў Злучаных Штатах. Магчыма, мала хто ведае, што распараджэньне аб зьяўленьні гэтага манумэнту падпісаў яшчэ прэзыдэнт Джордж Буш-малодшы. Пасьля доўгіх гадоў і цяжкай працы мы нарэшце выканалі задачу агромністай важнасьці. Цяпер мы спадзяемся, што ўвесь сьвет, і ў першую чаргу, вядома, наша велізарная супольнасьць тут, у ЗША, зразумее сапраўдны сэнс падзей, якія адбываліся ва Украіне ў 1932-33 гадах. Калі ад 7 да 10 мільёнаў украінцаў — мужчын, жанчын і дзяцей — былі асуджаныя Сталіным на галодную сьмерць. Мы хочам, каб ім аддалі даніну павагі, якую яны заслугоўваюць, і каб гэты манумэнт служыў напамінам і перасьцярогай — што нішто падобнае ніколі ў сьвеце не павінна паўтарыцца".

У 2011 годзе гарадзкія ўлады Вашынгтону назвалі пераможцам праект «Пшанічнае поле» Ларысы Курылас — амэрыканскага скульптара ўкраінскага паходжаньня..

Помнік усталяваны ў цэнтры Вашынгтону, паблізу Massachusets Avenue і North Capitol Street. Ён выкананы ў выглядзе вялізнай вэртыкальнай бронзавай пліты на каменным пастамэнце, якая паказвае 10-мэтровае поле спачатку здаровых пшанічных каласоў, якія паступова чэзнуць і растаюць у нябыце. Побач з бронзавай плітой разьмешчаны тэкст з кароткім апісаньнем на ангельскай і ўкраінскай мовах: Галадамору 1932-33 гадоў ва Украіне. Аднак ні ўлады Украіны, ні адміністрацыя Вашынгтону ня сталі выдаткоўваць грошы на стварэньне манумэнту — усе сродкі былі сабраныя праз прыватныя ахвяраваньні, як ад асобных людзей, так і ад арганізацый.

Адным з галоўных спонсараў праекту помніка стаў цяпер апальны ўкраінскі мільярдэр Дзьмітры Фірташ — уладальнік «Інтэры», аднаго з самых рэйтынгавых нацыянальных тэлеканалаў, а таксама дзесяткаў буйных прадпрыемстваў, у асноўным у хімічнай і газавай сфэры, арыштаваны ў Аўстрыі ў 2014 на запыт амэрыканскіх уладаў па падазрэньні ва ўдзеле ў карупцыйных зьдзелках. Фірташ, які адмаўляе ўсе абвінавачваньні, у тым ліку ў таемных сувязях з Крамлём, пазьней быў адпушчаны пад заклад, і ў красавіку сёлета суд у Вене адмовіўся экстрадаваць яго ў ЗША. У агульнай колькасьці на манумэнт ахвярам Галадамору ў Вашынгтоне Дзьмітры Фірташ выдаткаваў 2,5 мільёна даляраў.

*Паводле Радыё Свабода*
*09.08.2015*

## Былы міністар Пятро Краўчанка:
## Пуцін абсалютна мае рацыю

Тэлеканал «Дождж» праводзіў апытаньне на вуліцах Масквы: ці трэба праводзіць міжнародны трыбунал, каб высьветліць, хто збіў Малайзійскі «Боінг» пад Данецкам. І выпадкова сустрэў былога міністра замежных справаў Беларусі (1990-1994) Пятра Краўчанку.

Краўчанка не вагаўся ў адказах: «Трыбунал па малазійскаму Боінгу не патрэбны, Пуцін абсалютна мае рацыю. А трэба судзіць Клінтана і Блэйра за бамбаваньне Бялграду».

*31.07.2015*



# Падзяка

Дасылаю праз газэту самую шчырую падзяку ўсім сябрам БАЗА й іншым маім сябрам, хто прысутнічаў на сьвяткаваньні майго 100-гадовага юбілею 19 ліпеня ў грамадзкай залі пры Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага на Атлянтык Авэню 401, а таксама тым, хто даслаў мне пісьмовыя і вусныя віншаваньні.

Дзякую, што выказалі ўвагу да майго асабістага сьвята, што былі са мною ў гэты памятны дзень. З душэўнай радасьцю ўспамінаю вашу цёплую сустрэчу, вашыя добрыя, шчырыя словы і пажаданьні, якія былі выказаныя ў мой адрас.

Асаблівая падзяка тым, хто непасрэдна займаўся падрыхтоўкаю сьвята, у першую чаргу арганізатару - Управе Бруклінскага аддзелу БАЗА. Дзякую за прыгожыя кветкі і сьвяточны торт.

Мне было прыемна і ўтульна пачувацца сярод сваіх людзей-беларусаў, для якіх, як і для мяне самога, наша нацыянальная прыналежнасьць зьяўляецца прыярытэтнай каштоўнасьцю. На чужыне мы памятаем пра нашу Бацькаўшчыну - Беларусь і шмат гадоў мы працавалі разам, каб не перапынілася наша сувязь з роднымі каранямі. Я рабіў, што мог і што ўдавалася. Цяпер гэтую эстафету перадаю вам. Посьпехаў вам на гэтым шляху!

*Антон Шукелойц*

# Сайты БАЗА ў інтэрнэце

**Галоўная управа БАЗА - сайт bazahq.org**

**Бруклінскі аддзел БАЗА - сайт baza.nyc**

***Таксама паведамляецца, што існуючая цяпер старонка БАЗА на Фэйсбуку не зьяўляецца прадстаўніцтвам БАЗА, а прыватнай старонкаю сп. Андруся Асадчага.***

# Кангрэс БАЗА

8 чэрвеня адбыўся чарговы Кангрэс Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня. Плянавыя Кангрэсы ў адпаведнасьці са Статутам склікаюцца раз у два гады. Паседжаньні Кангрэсу праходзілі ў грамадзкай залі пра Саборы сьв. Кірылы Тураўскага ў Нью-Ёрку.

Былі заслуханы справаздачы старшыні Галоўнай управы Ганны Сурмач, сяброў Управы і прадстаўнікоў структураў БАЗА. Адбыліся выбары новага складу кіруючых органаў. У склад Галоўнай управы былі абраныя:

- **Ганна Сурмач** - *старшыня*, e-mail: **surmacova@gmail.com**, tel. **1 (347) 858-5335**
- **Вячаслаў Бортнік** - *намеснік*, e-mail: **amnesty_by@gmx.net**
- **Натальля Федарэнка** - *сакратар*, e-mail: **fedorenko_ns@yahoo.com**, tel. **1 (347) 543-4388**
- **Галіна Царук** - *скарбнік*, e-mail: **htsaruk@gmail.com**, tel. **1 (347) 671-5672**
- **Янка Грышкевіч** - *сябра*, e-mail: **igrishkevich@yahoo.com**, tel. **1 (732) 331-7361**
- **Расьціслаў Гарошка** - *сябра*, e-mail: **rastislau@gmail.com**, tel. **1 (718) 357- 6850**
- **Сяргей Пятровіч** - *сябра*, e-mail: **sergei_petrovitch@yahoo.com**, tel. **1 (347) 831-7273**
- **Таццяна Красоўская** - *сябра*, e-mail: **premiere718@yahoo.com**, tel. **1 (646) 250-1784**
- **Натальля Ганчарук** - *сябра*, e-mail: **natalliahanchruk@yahoo.com**, tel. **1 (215) 839-5626**

**У Рэвізійную камісію абраныя:**

- **Андрэй Падлескі** - *старшыня*, e-mail: **zadorje@gmail.com**, tel. **1 (646) 483-3543**
- **Сяргей Сарагавец** - *сябра*, e-mail: **sierhei1959@gmail.ru**
- **Анатоль Грошаў** - *сябра*, e-mail: **hroshau@gmail.com**, tel. **1 (347) 260-9128**

*Інфармацыйная служба БАЗА*

# УВАГА!

**Паведамляем наш новы паштовы адрас, на які трэба дысылаць пошту для газэты "Беларус":**



**P.O. Box 456**
**New York, NY 10025**
**USA**

# ПАДАРОЖЖА ПА ДУНАІ



Гэтак мы з Надзяй надумаліся адзначыць 20-годзьдзе нашага шлюбу. А чаму па Дунаі? – Хто яго ведае? Можа таму, што некалі, дома яшчэ, мне абівалася аб вушы мэлёдыя-вальсік “На волнах Дуная”. А пасьля ўжо, шмат пазьней, было чытае й чытанае аб тым, што нашы пра-прапрашчуры прыйшлі з Дунаю, бо ў народных песьнях, казках сустракаецца слова “Дунай”. А можа яшчэ й таму, што наш колішні круіз па нямецкім Рэйне пакінуў у памяці прыемнае ўражаньне, калі сядзіш на палубе лодкі, не адчуваючы ейнага руху, і толькі пагляддаеш, як бязупынна зьменлівы далягляд плаўна набліжаецца да цябе, і ўсё гэта, як масаж, лагодзіць нэрвы. Рачныя круізы радыкальна адрозьніваюцца ад акіянскіх: на рачной лодцы значна менш пасажыраў, спакайнейшы рух па вадзе, большая ўвага гіда да пасобнага турыста.

Наша дунайскае падарожжа адбылося ў канцы траўня-пачатку чэрвеня й трывала два тыдні. А рыхтавацца да яго мы пачалі яшчэ ў верасьні 2014-га. Надумаўшыся ехаць, зьвярнуліся да аўтамабільнага клюбу ААА, да якога гадамі ўжо належым, каб яны афармілі на канец траўня наступнага году круіз па Дунаі на лодцы “Швайцарскі дарагі камень” (Swiss Jewel) турыстычнай фірмы Таўк (Tauck). Фірма гэтая, сказалі нам дасьведчаныя падарожнікі, забясьпечвае люксусны камфорт, каб аб нічым не балела галава. Мы думалі, што часу яшчэ маем досыць, дык можна будзе выбраць на лодцы добрае меца. Ажно аказалася, што незанятымі засталіся ўсяго тры каюты. Мы зьдзівіліся, што амаль усё было пазаймана так далёка наперад. Прычыну такога сьпеху зразумелі ўжо ў дарозе. Дарэчы, штуршком да выбару дунайскага маршруту быў таксама цікавы на ягоным шляху рад гарадоў: Прага – Рэгенсбург – Пасаў – Зальцбург – Вена – Браціслава -- Будапэшт. Пяць краінаў, чатыры сталіцы! Дык што там каюта!? Каюта толькі для начлегу. Едзем! І толькі пасьля пабачылі, што якасьць каюты – гэта ня толькі начлег.

З надвор'ем нам пашанцавала. Са спадарожнікамі таксама. Кольнасьць іх была зусім умеркаваная, і як толькі мы занялі каюту, адбылося адразу ж завочнае знаёмства зь імі. На стале разам зь іншай інфармацыяй ляжаў сьпіс усіх пасажыраў – 104 асобы: імя, прозьвішча, хто зь якога штату (усе былі амэрыканцы за выняткам чатырох аўстраліцаў). З прозьвішчаў вынікала, што пераважная бальшыня – гэта муж з жонкай. Хутка мы пабачылі й пачулі, што амаль усе спадарожнікі людзі пажылога веку, чые дзеці ўладкаваныя ўжо, а самі яны дачакаліся магчымасьці падбаць пра сябе, адпачыць, паезьдзіць крыху па сьвеце. Некаторыя, як пасьля выявілася, карысталіся ўжо трэці, чацьверты ці пяты раз паслугамі кампаніі Таўк.

Падрыхтоўваючы загадзе сваіх пасажыраў у дарогу, Таўк заахвочвае іх узаемна знаёміцца зь першага дня, садзіцца да сьнеданьня ці вячэры пры нагодзе за іншы стол, уваходзіць у гутарку, завязваць знаёмствы. І мы пабачылі, што такое падбадзёрваньне дзеіць, спрыяе таварыскай атмасфэры, ажыўляе гутаркі, выклікае ўсьмешкі, рэплікі пры сустрэчы, замацоўвае знаёмства. Узаемнаму азнаямленьню дапамагае ў вялікай меры пэрсанал абслугі – надзвычай ветлівыя маладыя людзі з розных частак сьвету, найбольш ці не з балканскіх краін (былой Югаславіі), але таксама й з Азіі, якія старанна й акуратна абслугоўваюць лодку й пасажыраў. Па калідорах, на палубе так і чуеш: “Добрай раніцы”. “Як маецеся?”. “Можа хочаце выпіць што?” Усюды чысьціня, абслуга ветлівая й бездакладная. У прасторнай гасьцёўні з фатэлямі – бар і піяніст, якому можаш заказаць сваю ўлюбёную мэлёдыю. Мы з Надзяй нават патанцавалі пад гукі мае ўлюбёнай “Бэза мэ муча”...

Кожны вечар у каюце на засланым ложку разам зь дзьвюмя шакалядкамі ляжала аддрукаваная для наступнага дня інфармацыя: пра надвор'е, калі й куды паедзем аўтобусам, што пабачым (часамі давалася магчымасьць выбару аб'екту), дзе будзе абед (таксама выбар мэню) ды іншыя праграмныя дэталі дня й вечара.

Калі вярталіся з паходу па горадзе й дзень быў халаднаваты, дык пры ўваходзе на лодку нас сустракалі зь цёплымі мокрымі хустачкамі, каб абцерці твар, рукі ды прапанавалі тут жа выпіць шкляначку нечага прыемна цёплага. У гарачы дзень хустачка й пітво былі халодныя.

Дунай – рака ня толькі магутная, але й плыве яна праз зялёныя ўзгорыстыя ваколіцы, асабліва ў межах Аўстрыі. Перад вачыма праплывае захапляльная калейдаскапічная панарама: зялёныя даволі высокія ўзгоркі, час ад часу з замчышчамі на іх, лугі, філігранныя вінаградныя тэрасы, чырвонастрэшныя пасёлкі, беласьценныя касьцёлы. Чыстая зрокавая ідылія.

У праграму падарожжа былі ўключаны тры банкеты: у Празе, у Вене і ў Будапэшце – першыя два ў палацах, а трэці ў залі акадэміі навук. У ладжаньні такіх банкетаў зыходзяцца інтарэсы з аднаго боку ўласьнікаў ці адміністратараў будынкаў, на ўтрыманьне якіх патрэбныя грошы, а з здругога боку інтарэсы турыстычнай фірмы, якая імкнецца даць сваім падарожнікам адчуваньне камфорту й “урачыстага моманту”. Гасьцей-турыстаў сустракаюць элегантна апранутыя кельнэры ў пальчатках, прапануюць шампанскае, сокі, ваду; сьвецяцца кандылябры пад размаляванымі столямі, сталы й крэслы ў белым, на сталах крышталь, парцэляна, гучыць камэрная музыка. У Празе ў палацы Лобкавіча перад тым як сесьці за сталы, выслухалі аповед уласьніка палацу пра гісторыю сям'і, будынкі, архівы ды фінансавыя праблемы зь перахаваньнем спадчыны. На банкеце ў Вене нас забаўлялі опэрныя сьпевакі, у Будапэшце – скрыпачы з папулярнымі мэлёдыямі.

У маляўнічым і старажытным нямецкім горадзе Пасаў, каля якога з Дунаем зьліваюцца яшчэ дзьве рэчкі, наш абход вуліцаў звяршыўся наведаньнем катэдры сьв. Сьцяпана. Пабудаваная на пачатку 13-га ст. ды шмат разоў дабудоўваная яна славіцца арганам, які налічвае 17 тысячаў 388 трубаў. Жанчына-гід, абвёўшы нас па горадзе – а было гэта ў нядзелю – параіла зайсьці ў сьвятыню, у якой на заканчэньне багаслужбы грае арган. Бязумоўна, усе мы пайшлі туды. Якое гэта было магутнае завяршэньне малітвы! Якраз у дзень нашай Тройцы.

Падарожнічаючы па праграме Таўка, маеш магчымасьць пабыць у месцах, дасяжных далёка ня кожнаму турысту. Такім была для нас у Празе бібліятэка Стражаўскага манастыра. Мы прайшліся па дзьвюх манументальных залях яе пад суровым і маўклівым наглядам жанчыны пэнсійнага веку, якая ні на крок не адступала ад нас. Стражаўская бібліятэка – абсалютны цывілізацыйны цуд! Сваім кніжным багацьцем, мастацкім афармленьнем і манумэнтальнай прыгажосьцю гэтая сьвятыня кнігі можа раўняцца толькі з Ватыканам ды падобнымі скарбніцамі чалавецтва. Пабыўшы тут, усьведамляеш сабе, як далёка завансаваная ў культуры была сярэднявечная Чэхія, і ці дзіва, што Прага сталася горадам публікацыі першага славянскага перакладу Старога Запавету Бібліі нашым Францішкам Скарынам.

Другім унікальным аб'ектам, які мы наведалі, была будапэсцкая опэра, зь якою нас азнаёмілі ня толькі дэтальна інфармацыйным абходам, але й пачаставалі мілагучнымі арыямі. Будуючы опэру ў другой палавіне 19-га ст. ў канкурэнцыі з аўстрыйскімі каралямі, вэнгерская знаць улажыла ў будынак ўсе свае фінансавыя сродкі й мастацкі талент, каб “ня быць горшымі”. Архітэктурная пэрла, будынак славіцца шматколерным мармурам, разьбой і ўсім сваім рафінаваным інтэр'ерам. Гэтак гордыя продкі забясьпечылі нашчадкам ня толькі крыніцу гонару за сваю спадчыну, але й трывалы паток турыстычнай валюты.

Таўк карыстаецца кваліфікаванымі мясцовымі гідамі (настаўнікамі, журналістамі), якія валодаюць патрэбнай інфармацыяй. Хачу адзначыць тут прыемную зьмену ў атрымоўваньні інфармацыі. Гэтым разам ня трэба было стаяць блізка каля гіда, каб чуць яго/яе голас. Ён выразна гучэў у вуху з павешанага на грудзіне апарацыка “Вокс” (голас – па-лацінску).

Пад самы канец дарогі нас папрасілі запоўніць даволі дэтальны апытальнік і даць ацэнкі самым розным аспэктам падарожжа й абслугі, а таксама выказаць крытыку, падаць прапановы. Сказалі, што гэтыя анкеты чытае сам галава кампаніі (якая, дарэчы, існуе ўжо 90 гадоў), містэр Таўк. Нам з Надзяй не ўдалося знайсьці нічога адмоўнага.

Мы пабачылі цікавую частку Эўропы (у дадатак да тае заклапочанае, пра якую штодзённа чуем з тэлевізара) – частку Эўропы са старажытнай багатай культурай, пабылі ў краінах, якія дбайна культывуюць сваю матэрыяльную й духоўную спадчыну як важны элемэнт стабільнасьці ў сучасным дынамічным сьвеце.

***Янка Запруднік***

*28 ліпеня 2015*

## Ліст у Рэдакцыю 

# Давайце ўдакладнім!

### Для крыўды амерыканцам няма падстаў

Як ужо двойчы "Голас Радзімы" паведамляў, у канцы мая бягучага года ў Мінску адбыўся VI Міжнародны кангрэс беларусістаў (па статуту ён збіраецца адзін раз у чатыры-пяць гадоў). На гэты раз ён даволі шырока асьвятляўся айчынным і зарубежным беларускім друкам розных накірункаў.

Не застаўся ў баку і штомесячнік "Беларус", які выдаецца ў Нью-Йорку. У здвоеным, красавіцка-майскім нумары ён пасьпеў змясціць артыкул рэдактара гэтага выдання Ганны Сурмач "Кангрэс Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў". У пачатку публікацыі гаворыцца, што пасяджэнні форума "наведалі даследчыкі з 14 краінаў: суседзяў Беларусі, таксама Брытаніі, Германіі, Японіі, Венгрыі". "Зоркаю кангрэса" называецца японка з "Цукубскага універсітэта Сіёры Кіёсава, якая прыехала ў Мінск з дакладам "пра праблемы і перспектывы вывучэння беларускай мовы ў Японіі". Здавалася б, усё пішацца правільна. Але... Але, далей ідзе абзац, з якім я, як адзін з сузаснавальнікаў МАБ і цяперашні яе ганаровы старшыня, не магу пагадзіцца. Там ідуць папрокі ў адрас Асацыяцыі і яе новага старшыні Аляксандра Сушы: "Сёлетні кангрэс, як выглядае, праходзіў пад патранатам дзяржаўных структураў." І далей: "...на сёлетні кангрэс не былі запрошаныя знаныя беларусісты з Амэрыкі і Канады. Вядома, што ў гэтых краінах доўгі час дзейнічаюць Інстытуты беларускай навукі і мастацтва, якія шмат зрабілі ў галіне беларусістыкі ў межах. Аднак на гэтым кангрэсе іх прадстаўнікі сталіся непажаданымі".

Тут я павінен зрабіць два істотных удакладненні. Першае, "пад патранатам дзяржаўных структураў" Грамадскае аб'яднаньне "Міжнародная асацыяцыя беларусістаў" было заўсёды, з часу сваёй арганізацыі, калі я, будучы ўжо дырэктарам Нацыянальнага навукова-асьветнага цэнтра імя Францыска Скарыны, які падпарадкоўваўся Міністэрству адукацыі, адразу ж пасля выбраньня кіраўніком МАБ пастараўся ў адпаведнасьці з заканадаўствам і нашым статутам, каб асацыяцыю зарэгістравалі ў Міністэрстве юстыцыі... А спалучэнне дзяржаўнай работы з грамадзкай толькі садзейнічала шматбаковай дзейнасьці спадкаемцы Інбелкульта.

Па-другое, як і раней, на Шосты кангрэс беларусістаў ніхто нікога загадзя не запрашаў. Спачатку камітэт ГА "МАБ" абмеркаваў тэматыку форума, потым яе змясцілі на старонках нашага сайта. І толькі пасля прысланай нам канкрэтнай заяўкі з названай тэмай пасылалі запрашэньне. Так прыехалі, скажам, ангельскія ўдзельнікі прафесары Джым Дынглі і Арнольд Макмілін, даволі шматлікія немцы і палякі, тая ж японка Сіёры Кіёсава. І нікога на граніцы не затрымалі. Што ж датычыцца калег са ЗША і Канады, то мы маглі толькі смуткаваць, што іх няма. Па іх жа волі.

То навошта шукаць вынікі дзяржаўна-палітычных умяшаньняў там, дзе іх проста не было?!

Што ж датычыцца Аляксандра Сушы, то я на кангрэсе толькі баяўся, што ён адмовіцца ад працаёмкага грамадзкага даручэньня. Але ён, разумеючы ўсю важнасьць беларусазнаўчай работы, даў згоду. І за яго прагаласавалі адзінагалосна. Веру, на карысьць асацыяцыі, нашаму навуковому ўзаемадзеяньню.

***Адам Мальдзіс,***
*ганаровы старшыня ГА "МАБ"*

# Віншаваньне

*Сёлета, у апошні дзень чэрвеня, свае першыя 50 гадоў жыцьця славіў сп. Лявон Юрэвіч, вядомы дасьледчык беларускай культуры і гісторыі, супрацоўнік Нью-Ёрскай Публічнай Бібліятэкі.*

*Сардэчна віншуем сп. Юрэвіча і жадаем яму новых жыцьцёвых і творчых набыткаў на наступным этапе, доўгай і плённай Вам дарогі на будучыню.*

***Рэдакцыя***

## ЛЯВОНУ ЮРЭВІЧУ на 50-годзьдзе

*30 чэрвеня 2015*

Спасярод сьвяточных дат
сёньня славім ПЯЦЬДЗЕСЯТ,
дружна стукаем у звон:
нарадзіўся наш Лявон.
Мы ўсе ўдзячныя Лявону
за тамы кніжнога плёну,
і за ўсё багацьце гэта –
Многая, многая, многая лета!!!

***Янка Запруднік***

# Ад кантры да беларускага фолк-року

### (творчыя пошукі беларускага музычнага гурту "Мерада")

Думкі пра выданьне сольнага альбому бударажылі выканаўцаў з гурта «Мерада» доўгі час. Памятаю 80-90 гады мінулага стагодьдзя, калі Сьціў Крамер – цяперашні лідэр гэтага гурта – пачынаў творчы шлях ў якасьці журналіста і музыканта-пачаткоўца. Ужо тады, працуючы ў гурце «Бонда» гукарэжысёрам, ён зразумеў важнасьць якасьці запісу, як і важнасьць захаваньня нацыянальнай музычнай спадчыны сучаснасьці для будучых пакаленьняў... Пасля, ў пошуках вытокаў блюзу, Сьціў блукаў па клюбах Лондана, Нью-Ёрка. У якасці кіроўцы вялікагрузнага аўто аб'ехаў увесь поўдзень ЗША, каб на свае вушы пачуць карнявы блюз на зямлі, дзе ён быў вынайдзены... Амаль праз 20 год падарожжаў Сьціў вярнуўся ў Беларусь, стварыў гурт «МЕРАДА», які дэбютаваў дыскам «Проста вер», выдадзеным кампаніяй «ВІГМА».




Першая кампазыцыя альбома «Проста вер» «Ваяр сьвятла» наводзіць на сур'ёзны лад. Гэтая музыка далёкая ад сёньняшняга мэйнстрыму, створаная для ўважлівага слуханьня і суперажываньня. Кантрастная структура гэтай кампазыцыі, у якой меланхалічны запеў зьмяняецца эмацыянальна насычаным прыпевам, дапамагае лепш асэнсаваць тэкст кампазыцыі. Своеасаблівую аўру гэтай песьні ствараюць аранжыроўка і выкарыстаньне шматлікіх гітар і выканаўчых прыёмаў, у вартасці якіх змогуць разабрацца сапраўдныя прыхільнікі блюзу і «року, арыентаванага на дарослых».

Знаўцы і слухачы гітарнага саўнду будуць задаволеныя: на запісу гучаць акустычныя інструмэнты, steel-guitar, ёсьць і сола са слэйдэрам на электрычных гітарах, і гукі ўжо стаўшага рэдкасьцю электрычнага «Хэманд-аргана»...

Яшчэ адно захапленьне музыкантаў – фолк-рок з элементамі папулярнай у ЗША музыкі кантры і соул. Тая песьня на альбоме мае назву «Дзень народзінаў вясны», у якой чуваць уплывы кантры-мелодый і спеваў Д.Мітчэл, Д. Партан ці больш сучаснай Т. Свіфт, якую ў ЗША памятаюць як спявачку кантры. На фоне гэтых выканаўцаў, мелодыі і аранжыроўкі Сціва і Ганны Крамер вылучаюцца беларускім меладычным каларытам. Гэтае адрозьненьне не адмяняе абавязку беларускіх музыкантаў і ў будучым рабіць свае творы яшчэ больш нацыянальнымі па духу і зьместу...

Бо, напрыклад, блізкая фолк-кампазіцыя «Вядзьмак» можна разглядаюць як крок у бок ад беларушчыны, хоць тэкст і аранжыроўкі кампазіцыі стваралiся ў разьліку на маладых беларусаў. Якім чынам пазьбегнуць новых хібаў і ўвабраць у сваю творчасць сучасныя рысы, якія б мелі нацыянальныя карані і пазнавальны каларыт – гэта ўжо творчая мэта чарговага альбома музыкантаў.

Увогуле, для гурта «Мерада» характэрна стварэньне песень незвычайнай тэматыкі. Маю не ўвазе песьню «Цягнік», створаную ў стылістыцы road-songs (песні для тых, хто ў дарозе). Тут мелёдыя і прыгожыя гітарныя сола Сьціва Крамера ствараюць атмасфэру настальгіі па родным краі, з якім не параўнаецца ні адна заморская краіна і яе краявіды.

Асноўным аўтарам тэкстаў альбома з'яўляецца вакалістка гурта Ганна Крамер (яна стварае тэксты і ў суаўтарстве разам з паэтэсамі Н. Гулак, А. Спрынчан і лідэрам гурта С. Крамерам). Аўтару асабліва блізкія радкі пра каханне. Сапраўды, у песнях «Рака каханьня», «Адзіны ты», «О, няхай вандруе любоў» можна адзначыць пераканаўчыя ўзоры так званай жаночай рок-паэзіі – пранікнёнай і эмацыянальнай, якая дазваляе прадэманстраваць вакальныя магчымасьці самой Ганне. Недзе стылістычна блізкай да папярэдняй кампазіцыі адзначу песьню «Бывай», якую па аранжыроўках і гітарных пасажах можна назваць наследваньнем гурту «Бонда», да творчасьці якога Сьціў мае вялікі сантымент.

А вось загалоўная кампазыцыя «Проста вер» і філасофская «Срэбны анёл» можна аднесьці да эмацыянальных палюсоў альбома. Бо у першай з іх сплялiся стары блюз і славянская мелодыка, больш характэрныя для дахрысьціянскіх сьпеваў. Песьня «Проста вер» мае багатую рытмічную структуру і характэрнае блюзавае гучаньне, а вось «Срэбны анёл» -- кампазіцыя з узвышаным сымбалізмам, глыбокімі думкамі і развагамі, лейтматывам чалавека, які шмат перажыў стратаў, доўгія гады жыў на чужыне і, ў рэшце рэштаў, вярнуўся на родную зямлю – у Беларусь

***Анатоль Мяльгуй***
*Менск*

*Леанід Леванові*ч

# СПРУЖЫНА



Мы рамантавалі машыну. Папраўдзе, рамантаваў майстар Кастусь, а я быў чаляднікам на падхваце: падаць, падтрымаць, прыціснуць. Калі мянялі пярэднія тармазныя калодкі, Кастусь спраўляўся без маёй падмогі. Спрытна здымаў колы, выбіваў старыя , нібы сьцёртыя наждаком, калодкі, ставіў новыя, тоўсценькія, цёмна-бліскучыя, падобныя на квадратную чакалядку.

А вось задняя калодка, якая нагадвала сярпок маладзіка, упёрлася. Дакладней, упёрлася спружына, адзін канец яе трэ было ўставіць у вушка калодкі і такім чынам замацаваць калодку ў цэнтры дыска. Разы тры спрабавалі мы зачапіць спружыну, устанавіць яе на месца ды ўсё не атрымлівалася - то міліметр, то два не дацягвалі. Спружына зрывалася, зноў сьціскалася, вярталася ў ранейшае становішча.

"Ну й тугая спружына! Каб яе воўк..." - Кастусь выцер тыльным бокам далані потны лоб. "Мусіць, трэба даць Вам іншы інструмент, каб Вы маглі мацней падціснуць?"

Я заганарыўся сваёй запатрабаванасьцю, раней націскаў драўлянай рукаяткай малатка, а Кастусь устаўляў між колцаў спружыны пляскаты канец вялізнай адвёрткі, і мы разам расьцягвалі ўпартую спружыну. І не дацягвалі.

Кастусь падняўся. Высокі, шырокі ў плячах, загарэлы, нібы выліты з бронзы. На моцнай шыі цьмяна бялеўся срэбраны крыжык на тоўстым залатым ланцужку. Калі я прыехаў, Кастусь быў у адных плаўках, корпаўся ля разбітай іншамаркі.

"Сьпёка неміласэрная. Магу працаваць адно ў плаўках" - нібы апраўдваючыся, сказаў ён.

На дварэ ўжо каторы дзень уладарыла бязьлітасная гарачыня- апоўдні ртутны слупок перапаўзаў далёка за трыццаць. Пад вечар паветра трохі свяжэла, астывала, асабліва ў цяні. Мы працавалі на двары, паросьлым густым, як воўна, мурагом, які за апошнія дні парыжэў.

Нарэшце сонца, мутнаружовае, як жаўток яйка вясковай курыцы, скацілася за купчастую ліпу, што высілася за гаражом. Паветра адразу пасьвяжэла, затое, бы галодныя ваўкі, наляцелі камары. Кастусь нацягнуў палінялыя, але чыстыя, некалі сінія джынсы. Я любаваўся ягонымі рухамі, моцнай прыгожай паставаю і міжволі падумаў: “От жа вылепіла прырода гэткага мацака. Усё дала яму: мужны адкрыты твар, зеленавата-шэрыя вочы, якія пазіралі на свет з годнасьцю і дабрынёй, дужыя шырокія далоні з доўгімі пальцамі, якія, здавалася, лёгка трымаюць малаток ці вялізны гаечны ключ".

А яшчэ падумалася: побач з ім галівудскія супэрмэны ды секс-сымбалі выглядалі б даволі бледна. За яго працаю было прыемна назіраць. Кажуць, што заўсёды хочацца глядзець, як гарыць агонь, цячэ вада, як выдае грошы касірка, і як працуе іншы чалавек. Я б дадаў: як працуе майстар.

Кастусь нырнуў у расчыненыя дзьверы гаража, неўзабаве вярнуўся з кароткім ломікам, трохі большым за манціроўку.

"Паспрабуйце гэтым упірацца. Павінны ж мы ўладзіць упартую спружыну. Годзе ёй упірацца".

На гэты раз мы дружна ўпёрліся, напружыліся - і паставілі спружыну на месца.

"Во, нарэшце мы яе замантулілі. Зробім перадых" - Кастусь кінуў на старое кола канчар дошкі, сеў на яго, прыхлопнуў камара, што прысмактаўся да ілба.

"Другую спружыну паставім хутчэй. А тады памяняем задні тармазны шланг. Пракачаем тармазуху. І будуць тармазы, як новенькія. Руль і тармазы галоўнае. У мяне была гісторыя..."

Кастусь пільна зірнуў на мяне: ці настроены я выслухаць яго, і працягваў, бо пераканаўся, што я, як кажуць, і вушы развесіў.

"Гадоў дваццаць пяць таму было. Вярталіся з вясельля. На “Жыгулях”. Уціснулася восем чалавек. Я за рулём. Едзем па лясной дарозе. Ноч, цемра. Наперадзе - круты паварот. Націскаю на тормаз - нага правальваецца. Хуткасьць - сотня з гакам. Калі крутануць руля, машына ў кювет. Ляцім, куляемся, удар аб дрэвы - і капцы. Убачыў вялізны лазовы куст, як стог сена. Мільганула думка: куст змякчыць удар. Гэта апошняе, што памятаю. Потым жахлівы шоргат лазовых галінак, моцны ўдар, трэск, грукат - і цішыня. Ачомаўся на трэйція суткі. Усё вакол белае. Ляжу пад кропельніцай".

Кастусь перадыхнуў, адагнаў камароў, ускінуў на плечы зашмальцаваную чырвона-сінюю масцерку.

"Потым дазнаўся, што праляжаў на аперацыі шэсьць гадзін. Рамонт быў капітальны. Двайны пералом правай нагі, пералом левай. Зламаў правую ключыцу. Дзве скабы, ну, рабрыны. Левую руку абадраў ад запясця да локця". Кастусь закасаў рукаво, і я ўбачыў ружавата-карычневы шнар. " Тры месяцы пракачаўся ў Маладзечне ў бальніцы. Васьмёра нас ехала. Усе засталіся жыць. Траўмы былі ў кожнага. Дактары дзівіліся, што я выжыў. Машына сплюшчылася ў гармонік, рамонту не падлягала. Палкоўнік міліцыі пагледзеў здымкі машыны, сказаў: “Вадзіцель не павінен быў выжыць у такой аварыі”. А я выжыў. Памалу пачаў рамантаваць машыны. Таго “жыгулёнка” мне падарылі бацькі. Я прыйшоў з войска, уладкаваўся на будоўлю ў Маладзечна. Няблага зарабляў. Паездзіў гады са два на той машыне. Першая мадэль, “капейка” у народзе празвалі. Крэпкая машына.

А на тым вясельлі я пазнаёміўся з дзяўчынай. Дачулася яна пра аварыю, пачала хадзіць у бальніцу. І ўсё часцей. Кажу ёй: “Дзяўчынка, мілая, навошта табе ламаны-пераламаны калека? Не хадзі ты да мяне. Ці мала хлопцаў вакол? Азірніся”. Не, кажа, я ў цябе закахалася. Як убачыла, так адразу і ўліпла" Кастусь скупа, неяк сарамліва, уміхнуўся, памаўчаў . "Праз год пасля аварыі пабраліся. Пражылі ўжо дваццаць тры гады. Старэйшы сын служыць у войску. Малодшы перайшоў у дзесяты клас, дачка - у сёмы. Вось такія нашы справачкі".

Я слухаў і не мог даць веры, што гэтага мацака, прыгожага, загарэлага мужчыну збіралі па частках.

"Кастусь, а крыжык носіце даўно?"

"Праз сем гадоў пасля аперацыі нарадзіўся малодшы сын, Сяржук. Вось тады Надзя, жонка, параіла купіць крыжык. Цяпер кожную нядзельку хаджу ў царкву. Усялякую работу ўбок, і з Надзяй ідзем у храм... Ну што, бярэмся за справу?"

Спружыну на другім коле мы ўстанавілі з першай спробы.

"Вопыт, досьвед - вялікая рэч " - задаволена прамовіў Кастусь. "А яна гэткая ж тугая, як і тая. А мы яе замантулілі адразу. Спружыну чым мацней сьціснеш, тым больш будзе аддача. Як шугане, дык не ўтрымаеш. Мой дзед, а яго таксама Кастусём звалі ў гонар Кастуся Каліноўскага, казаў: “Беларускі народ у вайну нагадваў сьціснутую спружыну. Як выпрастаў сьпіну, дык немцы і пакаціліся... Зямля гарэла пад нагамі фрыцаў”.

Мяне ўразіла гэтае нечаканае параўнаньне. Здзівіла, што хлапчуку, які нарадзіўся ў невялікай вёсцы, у сялянскай сям"і, далі імя ў гонар Каліноўскага. Мабыць, суразмоўнік адчуў гэтую няверу, бо тут жа дадаў:

"Мой прапрадзед Базыль, па сучаснаму Васіль, быў касінерам Каліноўскага. Загінуў тут, на Вілейшчыне. Ліцьвінчук - нашае прозвішча. Яно невыпадковае, яно гістарычнае. Мы ж ліцьвінамі былі спрадвеку. Гэта потым наш край пачалі называць Белай Руссю. Вы ж Ермаловіча Міколу чыталі?"

"Канечне, чытаў. Быў з ім добра знаёмы. Мікалай Івановіч нават рэцэнзію на маю кнігу “Якар надзеі” надрукаваў".

"Дык, значыць, і ён Вас чытаў!" - з павагай зірнуў на мяне Кастусь.. "Я вам скажу вось што - Беларусь павінна адрадзіцца. Ну, паглядзіце, як вакол усе суседзі за сваё трымаюцца. Дзесьці чытаў, што ў Чэхіі родная мова была зусім у заняпадзе. А зараз? Расквітнела, усе на ёй гавораць. А чым мы горшыя? Мы ж народ спружыністы. Акрыяем!"

Кастусь гаварыў і рабіў сваю справу. Здавалася, ягоныя рукі працуюць самі па сабе, аўтаматычна. Яны спрытна адкруцілі заржавелую гайку задняга тармазнога шланга, устанавілі новы, залілі тармазуху - тармазную вадкасьць, пракачалі яе.

" Ну што, праверым тармазы?"

Кастусь выцер анучаю далоні, сеў за руль, выехаў на вуліцу, разагнаў машыну і рэзка спыніўся. Пад коламі зашаргацеў пясок, шлейф пылу ўзьняўся над машынай.

"Усё ў ажуры. Тармазы, як новенькія. Нездарма валэндаліся над спружынаю " - задаволена сказаў Кастусь.

"Дзякуй. Майстар Вы адмысловы. Як будзем разьлічвацца? -- Работа сур"ёзная. Колькі?"

"Работа звычайная. Нічога асаблівага. Сорак тысяч".

"Мусіць, мала. Даю пяцьдзесят".

"Не-не, - рашуча запярэчыў Кастусь. " Вам грошы з неба не валяцца. Можа, кнігу новую калі падорыце".

"Пашукаю зараз. Павінна быць".

Знайшоў у багажніку сваё “Сіняе лета”. Падпісаў.

"От за гэта шчыра дзякую! " Кастусь асцярожна ўзяў кнігу, баючыся запэцкаць яе. " Калі што якое з машынаю== прыязджайце".

"А ланжэрон вы маглі б заварыць?"

"Запраста. А што ёсць праблема з ланжэронам?"

"Была. У Менску доўга не мог знайсці зваршчыка. Не ведаў, што Вы ёсць. І што ўсё ўмееце".

"Затое цяпер ведаеце. Шчасьліва езьдзіць і не ламацца".

Машына лёгка кацілася па асфальце. Наперадзе пачыналася калдобістая жвіроўка, нага аўтаматычна націснула на педаль тормаза, машына рэзка, нібы зацугляны конь, прыпыніла ход. “Малайчына, Кастусь”, - падумаў я з удзячнасьцю пра майстра і міжволі прыгадаў, як мы ўлагодзілі ды замантулілі ўпартую спружыну.

*2006*

# Календар памятных датаў на жнівень-верасень 2015

## Жнівень

**5 жніўня - 30** гадоў таму, у 1985 годзе, у Чыкага памёр **Чэслаў Будзька**, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША

**6 жніўня - 175** гадоў таму, у 1840 годзе, нарадзіўся **Альгерд Абуховіч**, пісьменнік, удзельнік паўстаньня 1863-64 г.г.

**7 жніўня - 135** гадоў таму, у 1880 годзе, нарадзіўся **Гальяш Леўчык**, паэт, асьветнік

**7 жніўня - 20** гадоў таму, у 1995 годзе, памёр **Максім Танк**, паэт, грамадзкі дзеяч

**9 жніўня - 125** гадоў таму, у 1890 годзе, нарадзілася **Ларыса Геніюш**, паэтка

**14 жніўня - 40** гадоў таму, у 1975 годзе, **Янка і Станіслаў Станкевічы** заснавалі Вялікалітоўскі фонд імя Льва Сапегі - прыватны дабрачынны фонд для разьвіцьця беларускай навукі

**16 жніўня - 70** гадоў таму, у 1945 годзе, **падпісана дамова паміж СССР і Польшчаю** аб зьмене мяжы і перадачы ў склад Польшчы 17 раёнаў Беластоцкай вобласьці ўключна з Беластокам і 3 раёнаў Берасьцейскай вобласьці.

**23 жніўня - 60** гадоў таму, у 1955 годзе, памёр **Іван Краскоўскі**, грамадзка-культурны дзеяч, педагог

**25 жніўня - Дзень аднаўленьня дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі**, Вярхоўны Савет БССР надаў "Дэклярацыі аб дзяржаўным суверэнітэце БССР", прынятай у ліпені 1990 году, статус канстытуцыйнага закону і тым самым паставіў законы Беларусі вышэйшымі над заканадаўствам СССР, што азначала юрыдычна прызнаную незалежнасьць краіны

**26 жніўня - 135** гадоў таму, у 1880 годзе, нарадзіўся **Гійом Апалінэр**, францускі паэт, унук беларуса - удзельніка паўстаньня 1863 году Апалінарыя Кастравіцкага

**28 жніўня - 100** гадоў таму, у 1915 годзе, нарадзіўся **Чэслаў Найдзюк**, грамадзкі дзеяч, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША



## Верасень

**1 верасьня - Сусьветны дзень міру**

**1 верасьня 1915 - 100** гадоў таму, у 1915 годзе, нарадзіўся **Масей Сяднёў**, пісьменнік, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША

**3 верасьня - 55** гадоў таму, у 1960 годзе, памёр **Міхась Васілёк**, паэт, актывіст Беларускай Сацыял-дэмакратычнай грамады ў Заходняй Беларусі

**3 верасьня - 35** гадоў таму, у 1980 годзе, памёр **Мікола Дучыц**, мастак

**3 верасьня - 25** гадоў таму, у 1990 годзе, памёр **Міхась Дубянецкі**, грамадзкі дзеяч, публіцыст, перакладчык

**5 верасьня - 175** гадоў таму, у 1840 годзе, нарадзіўся **Зыгмунд Мінейка**, удзельнік паўстаньня 1863-64 г.г., этнограф, грэчаскі грамадзкі дзеяч, ягоны нашчадак - палітычны дзеяч Грэцыі Андрэас Папандрэу

**7 верасьня - Дзень беларускага пісьменства і друку**

**7 верасьня - 25** гадоў таму, у 1990 годзе, **у Полацку адчыніўся Музэй беларускага кнігадруку**

**8 верасьня - Міжнародны дзень салідарнасьці журналістаў**

**10 верасьня - 25** гадоў таму, у 1990 годзе, у Менску **адбылася ўстаноўчая канфэрэнцыя па стварэньню Згуртаваньня беларусаў сьвету "Бацькаўшчына"**

**14 верасьня - 15** гадоў таму, у 2000 годзе, памерла **Галіна Русак**, мастачка, дзеяч эміграцыі ў ЗША

**14 верасьня - 15** гадоў таму, у 2000 годзе, у Парыжы памёр **Ежы Гедройц**, рэдактар польскага часопіса "Культура", спрыяў разьвіцьцю беларускай культуры

**19 верасьня - 110** гадоў таму, у 1905 годзе, нарадзіўся **Янка Туміловіч**, паэт, настаўнік

**20 верасьня - 70** гадоў таму, у 1945 годзе, у Менску **адчынены Музэй Янкі Купалы**

**20 верасьня - 65** гадоў таму, у 1950 годзе, у Нью-Ёрку **выйшаў першы нумар газэты "Беларус"**

**21 верасьня - 40** гадоў таму, у 1975 годзе, памёр **Міхась Лынькоў**, пісьменнік

**22 верасьня - 165** гадоў таму, у 1850 годзе, памёр **Францішак Дзеружынскі**, рэлігійны дзеяч, адзін з пачынальнікаў адукацыйнай сістэмы ў ЗША

**22 верасьня - 40** гадоў таму, у 1975 годзе, памёр **Павал Крынчык**, грамадзка -культурны дзеяч, актывіст ТБШ

**23 верасьня - 105** гадоў таму, у 1910 годзе, нарадзіўся **Юльян Сергіевіч**, паэт, мастак

**23 верасьня - 80** гадоў таму, у 1935 годзе, у савецкай турме ва Уфе памёр **Лявон Заяц**, палітычны дзеяч

**25 верасьня - 120** гадоў таму, у 1895 годзе, нарадзілася **Ванда Лёсік (Лявіцкая)**, пісьменніца

**25 верасьня - 50** гадоў таму, у 1965 годзе, памёр **Міхась Маскалік**, грэка-каталіцкі сьвятар, навуковец

**29 верасьня - 135** гадоў таму, у 1880 годзе, нарадзіўся **Сяргей Сахараў**, культурны дзеяч, фальклярыст, этнограф

# Сьв. памяці Ніны Корсак-Кіт

## (10 жніўня 1920 г. - 2 чэрвеня 2015 г.)



Напачатку чэрвеня на 95 годзе жыцьця пакінула наш сьвет сп. Ніна Кіт, якую добра ведала беларускае грамадзтва ў Амэрыцы.

Нарадзілася Ніна Корсак 10 жніўня 1920 году ў мястэчку Лебедзеў каля горада Маладзечна ў Беларусі ў сямьі Натальлі Глод і Івана Корсака. Мела двух братоў.

У 1921 годзе ў выніку Рыжскай дамовы мястэчка Лебедзеў трапіла ў склад Польшчы . Ніна гадавалася на бацькоўскай гаспадарцы.

У верасьні 1939 года савецкія войскі занялі тэрыторыю Заходняй Беларусі. Ніну бацькі паслалі ў настаўніцкую школу ў Баранавічы, дзе яна вывучала расейскую мову і літаратуру.

Бацька Ніны быў дыяканам і кіраўніком царкоўнага хору. Пасьля ўсталяваньня савецкай улады бацька быў арыштаваны і адпраўлены ў сібірскія лягеры, адкуль вярнуўся праз доўгія гады і хутка пасьля гэтага памёр.

17 жніўня 1940г Ніна ўзяла шлюб з вядомым беларускім грамадзкім дзеячам і навукоўцам Барысам Кітам, які дожыўся да 1975 году і быў скасаваны ў Нямеччыне. Мелі двух сыноў - Уладзіміра (нарадзіўся ў Польшчы ў 1941 годзе) і Віктара (нарадзіўся ў 1950 годзе ў Лос- Анджэлесе).

Уладзімір памёр у 2009 годзе, працаваў як Senior Corporate Computer Manager for Budget at National Aeronautics and Space Administration (Washington, D.C.).

Віктар – доктар, жыве ў Балтыморы.

У 1945-48 гады Ніна і Барыс былі ў Нямеччыне ў лягеры ўцекачоў, адкуль эміфравалі ў Злучаныя Штаты. Жылі ў Саўт Рывэры (New Jersey), у Лос- Анджэлесе (Каліфорнія), а потым пасяліліся ў гарадку Кенсінгтон, штат Мэрыленд. Амэрыканскае грамадзянства Ніна атрымала 28 траўня 1954 году.

Яна ўвесь час дапамагала беларускім эмігрантам, якія воляй лёсу апынуліся далёка ад сваёй радзімы. З многімі яна захавала добрае сяброўства на доўгія гады. Працавала ў Джорж Вашынгтон Унівэрсытэце як кампутарны аналітык. Яна любіла працаваць на зямлі. У яе садзе квітнелі цудоўныя азаліі, розныя дрэвы ўпрыгожвалі сад. Любіла танцаваць і была актыўным сябрам Senior Center, выдатна іграла ў брыдж. Любіла і цаніла оперу. Унучка Ніны Марына Кіт і яе муж неаднаразова былі чэмпіёнамі нацыянальных амерыканскіх спаборніцтваў па тэнісу.

Ніна добра гатавала беларускія стравы, якія карысталіся папулярнасьцю. Яе часта запрашалі гатаваць для вясельляў, сяброўскіх і прафесійных сустрэч. Яна шчодра дзялілася рэцэптамі нацыянальных страў, выступала ў адпаведных перадачах на тэлевізіі.

Сьветлая памяць нашай маме і бабулі !

*Віктар Кіт*

# Сьв. памяці Марыі Ганько

Раніцаю 21 ліпеня на самым піку сёлетняга сьпякотнага лета пайшла з жыцьця сп. Марыя Ганько.

Марыя Ганько (дзявочае прозьвішча Кулеш) нарадзілася ў 1930-м у Вялейскім раёне — тады гэта былі заходнебеларускія землі ў складзе Польшчы. Пасьля прыходу савецкай улады сям'ю раскулачылі, адных выслалі ў Сібір, астатнія былі на чарзе.

У 1944 г. Марыя разам са сваякамі падалася на Захад. Пад Беластокам Марыя скончыла школу, тэхнікум, працавала.

У 1959 атрымала запросіны ад брата, што жыў у Канадзе, і маладая жанчына наважылася на пераезд. У Канадзе адразу далучылася да беларускага грамадзкага жыцьця.



Дабразычлівая і адначасова патрабавальная, простая, але па-народнаму мудрая, шчырая, гасьцінная і ўвесь час клапатлівая... Такой застанецца ў нашай памяці сп. Марыя.

З 1960 году, калі неўзабаве па прыездзе ў Таронта брат Міхась упершыню прывёў яе ў Беларускі Рэлігійна-Грамадскі Цэнтар, сп. Марыя не проста палюбіла, але па-сапраўднаму аддалася грамадзкай справе, стала актыўнай удзельніцай беларускага жыцьця ў Канадзе. А ў апошнія дзесяцігоддзі, калі пачалі сыходзіць з жыцьця стваральнікі Згуртаваньня Беларусаў Канады – Алесь Грыцук, Кастусь Акула, Мікола Ганько - яна была сапраўднай духоўнай апорай ужо для нашага пакаленьня.

Сваё сямейнае шчасьце Марыя Ганько знайшла тут у Канадзе, і сталася неўзабаве нязьменнай памочніцай мужа - актыўнага грамадзкага дзеяча, неадназовага старшыні Згуртаваньня Беларусаў Канады Міколы Ганька. У кнізе "Каб сьведчылі пра Беларусь" яна з вялікай цеплынёй апавядае пра іхнюю першую сустрэчу, пра вясельле ў беларускай царкве, якое стала значнай падзеяй у грамадзе. Нездарма Уладыка Мікалай, які вянчаў гэтую маладую пару, напісаў у "Царкоўных навінах": "Гэтае жанімства было... на вялікую радасьць і дабро нашаму грамадству".

Гэты шлюб сапраўды аказаўся шчасьлівым. У сваёй кнізе сп. Марыя напісала, што самае вялікае шчасьце для жанчыны - быць абранніцай высакароднага і сьветлага мужчыны, якім быў яе Мікола. Для яе ён быў Чалавек, які не забываўся на свае карані, працаваў дзеля Беларусі і аддаваў гэтай ідэі ўсе сілы сваёй душы. Яны абое былі з сялянскага асяроддзя з ягонымі цьвёрдымі, моцнымі нацыянальнымі традыцыямі, з высокай хрысціянскай маральлю. У сваёй кнізе сп. Марыя ўзгадвала: "Цяпер, пасьля сьмерці Міколы, я жыву ў доме адна. Аднак, усё ў ім нагадвае мне пра мужа й нашы незабыўныя гады, якія мы пражылі разам. Бывае, калі не магу знайсьці нейкую рэч, кажу: "Міколка, дапамажы!", і патрэбная рэч адразу ж знаходзіцца, як быццам ён чуе мяне й па-ранейшаму хоча аберагчы ад усіх, самых дробных нягодаў...

Так і прайшлі яны разам да самай сьмерці сп. Міколы: на ўрачыстых сьвятах Дзён Незалежнасьці Беларусі, якія ладзіліся ў Канадзе, шмат працавалі дзеля правядзеньня "Каравану" - своеасаблівых кірмашоў-выставаў, дзе канадыйцы маглі даведацца пра Беларусь, яе звычаі, нацыянальныя асаблівасьці, пакаштаваць беларускія стравы. Разам з грамадой праводзілі мітынгі ў абарону незалежнасьці Беларусі, зьбіралі лекі і адзеньне для пацярпелых у чарнобыльскай аварыі. Марыя Ганько была сапраўдным тылам і для Міколы Ганька і для Згуртаваньня Беларусаў Канады. Яна была як быццам трохі ззаду, але без яе не ладзілася ні адно мерапрыемства Згуртаваньня або нашай парахвіі.

Вялікай радасьцю для сп. Марыі быў першы пасьля многіх гадоў прыезд на Радзіму, калі ў складзе вялікай дэлегацыі канадыйскіх беларусаў удзельнічала ў Першым з'ездзе беларусаў сьвету. Яна вярнулася адтуль акрыленая, паверыўшы, што здзейсьніцца мара многіх пакаленьняў аб вольнай, незалежнай Беларусі.

Марыя Ганько была глыбока рэлігійная: малілася за сям'ю, парахвію, Беларускую Аўтакефальную Царкву, Згуртаваньне Беларусаў Канады, сваю радзіму, на якую ніколі не забывалася. Яна верыла, што малітва мае моц, можа дапамагчы. Кожную нядзелю, у любое надвор'е, прыязджала на службу ў царкву і тым была прыкладам для ўсіх нас. Будучы цяжка хворай, пакутавала, што рабіць гэта для яе ўсё цяжэй і цяжэй. Але да апошняга дня цікавілася справамі парафіі і Згуртаваньня Беларусаў Канады.

Нам будзе не хапаць яе. Вельмі моцна не хапаць. Не верыцца, што мы не ўбачым болей яе ў нашай царкве, у нашым Доме.

*Руслан Качаткоў*

# Запрашэньне!!!

***Дарагія беларусы!***

*Па даўняй традыцыі **Згуртаваньне Беларусаў Канады (ЗБК) і Беларуска-Амерыканскае Задзіночаньне (БАЗА) арганізуюць раз на два гады па чарзе Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі**. Апошняя адбылася ў Нью-Ёрку ў 2014 годзе.*

*__Наступная Сустрэча будзе праходзіць у сталіцы Канады, Атаве, 5-7 верасьня 2016 года!__ Там створаны лякальны Аргкамітэт.*

*Будзем рады бачыць вас на Сустрэчы, а таксама атрымаць ад вас прапановы па яе арганізацыі. Сачыце за далейшымі абвесткамі адносна праграмы і дэталяў правядзеньня.*

***Па ўсіх пытаньнях зьвяртайцеся:***
*__Ганна Сурмач__, Старшыня Галоўнай управы БАЗа,*
*тэл. __+1 (347) 858-5335__, e-mail: __surmacova@gmail.com__*
*__Зьміцер Ельяшэвіч__, Старшыня Галоўнай управы ЗБК,*
*e-mail: __dzmitrye@hotmail.com__*
*__Пётра Мурзёнак__, старшыня лякальнага Аргкамітэта,*
*тэл. __+1 (613) 680-1114.__*
*e-mail: __petermurzionak@yahoo.ca__*

# Сьв. памяці ЮРКІ (George) ОРСА

Народжаны ў Баранавічах 12 студзеня 1937 году, старэйшы сын Пятра й Ніны Орсаў - Юрка, памёр 8 ліпеня 2015 году ў Мілэрзьвілі (штат Мэрылэнд, ЗША).

Сямігадовым хлопчыкам пакінуў ён разам з бацькамі родную Беларусь, але ўспаміны пра яе заўсёды жылі ў ягоным сэрцы разам з глыбокай пашанай да мовы, якою сям'я карысталася праз усё жыцьцё. Маладыя гады Юрка правёў у Саўт Рывэры (штат Нью Джэрзі), дзе бацькі асталяваліся па прыезьдзе ў Амэрыку, яго тагачасныя сябры й сяброўкі прыйшлі на пахавальную цырымонію.

Юрка Орса скончыў Ратгэрскі унівэрсытэт, затым атрымаў магістарскую ступень у Алабамскім унівэрсытэце. Ад 1958 да 1970 году служыў у войску Злучаных Штатаў Амэрыкі. Удзельнік віетнамскай вайны. Пакінуў вайсковую службу ў чыне маёра. Заснаваў бізнэсовую кампанію, якой кіраваў да сваіх апошніх дзён. Жыў у штаце Мэрылэнд.

Пахаваны Юрка Орса на беларускім парафіяльным могільніку ў Іст Брансуіку (штат Нью Джэрзі), дзе знайшлі апошні прытулак і ягоныя бацькі. Паніхіду служыў а. Зіновій з царквы Жыровіцкай іконы Божай Маці (БАПЦ).

Пакінуў у смутку малодшага брата Аляксандра Орсу й стрыечную сястру Алу Орса Рамана з сынамі.

## На выданьне газэты "Беларус" ахвяравалі:

| | |
|---|---|
| **Наташа Ганчарук** | **$ 50** |
| **Уладзімір Караткевіч** | **$ 50** |
| **Віктар і Джудзі Кіт,** *(у памяць маці Ніны Кіт)* | **$ 100** |
| **Максім Кучынскі** | **$ 50** |
| **Ліза Літаровіч** *(у памяць Юркі Орса)* | **$ 50** |
| **Вольга Нарушэвіч** *(ад беларусаў у Аўстраліі)* | **$ 300** |
| **Багдан Паўк** | **$ 50** |
| **Валянціна Трыгубовіч,** *(заміж кветак на магілу Юркі Орса)* | **$20** |
| **Генадзь Цэканоўскі** | **$50** |

***Шчырая падзяка ўсім ахвярадаўцам!***

**БЕЛАРУС**
*Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце*
**Выдае:**
**Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне**
**ISSN 1054-9455**
**BIELARUS**
*Belarusan Newspaper in the Free World*
**Published by**
**Belarusan American Ass'n, Inc.**

**СКЛАД РЭДАКЦЫІ:**
Адказны рэдактар
**Ганна СУРМАЧ**
*surmacova@gmail.com*
Скарбнік, арганізатар падпіскі
**Таня КРАСОЎСКАЯ**
*premiere718@yahoo.com*
Рэдактарка дзіцячай старонкі
**Галіна ПАДЛЕСКАЯ**
*galinapodles@hotmail.com*
Адказная за рассылку газэты
**Натальля СТАРАВОЙТАВА**

Адрас Рэдакцыі:
**BIELARUS Newspaper**
**166-34 Gothic Drive**
**Jamaica, NY 11432, USA**
Паштовы адрас:
**P.O. Box 456**
**New York, NY 10025 USA**
Электронны адрас (E-mail):
**bielarus@bazahq.org**
Кампутарная вёрстка
**Mikalai Media Productions**

***Адказнасьць за зьмест рэклямы нясе рэклямадаўца.***
*Грашовыя чэкі выпісываць на імя:*
***BIELARUS Newspaper***
*і дасылаць скарбніку на паштовы адрас рэдакцыі.*
***Артыкулы, падпісаныя прозьвішчамі альбо ініцыяламі, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не пагаджаецца.***